

Нарміроўшчык Мінскага аўтамабільнага завода студэнт Ленінградскага завочнага індустрыяльнага інстытута Мікола Крукаў.

Фото А. Дзітлава.



У Мінскай абласной кантрольна-насеннай лабараторыі. Старшы лабарант Валянціна Істапенка праводзіць аранжарэйны кантроль насення.

Фото А. Дзітлава.





Выканаўцы роляў у оперным спектаклі «Маладая гвардыя», пастаўленым у Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета: заслужаны артыст рэспублікі І. Сайкоў (Алег Кашавы) і артыст Ю. Матраеў (Сяргей Тюленін); артыстка Т. Ніжнікава (Люба Шаўцова).

Фота А. Дзітлава.



**На катку ў Парку культуры і адпачынку імя Горкага (Мінск). Заслужаны майстар спорту З. Бальшакова** (справа) **праводзіць заняткі з маладымі канькабежцамі Алай Матусевіч, Маратам Чайкоўскім і Уладзімірам Бабічам.**

Фото А. Дзітлава.



**Маці-гераіня Ольга Іванаўна Крупко (Мінск) сярод сваіх дзяцей.** Злева направа: **Мікалай — слесар мотавелазавода, Аляксандр — электрык тонкасуконнага камбіната, Лёня — вучань V класа 39-й школы, Грыша — дашкольнік, Оля — вучаніца I класа 39-й школы, Ларыса — брыгадзір атэлье мод, Іван — вучань IV класа школы № 3, Алег — токар тонкасуконнага камбіната, Тамара — работніца мясакамбіната. На руках — чатырохгадовы Вова.**

Фото А. Дзітлава.



Іосіф Вісарыёнавіч Сталін
(1879 — 1953)


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!
Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.
№ 3 (12). Сакавік, 1954 год.

Орэст МАЛЬЦАЎ

# Ля сцен Маўзалея

Шмат ёсць на зямлі цудоўных гарадоў. Не пералічыць раскошных вуліц і плошчаў, якія ўпрыгожваюць аблічча нашай старой планеты — кожны народ, вялікі і малы, унёс у яе багатае ўбранне сваю жменю самацветаў, не падобных адзін да другога, па-рознаму цудоўных, але разам і складаючых агульную гордасць усяго чалавецтва. Ганарацца лонданцы Гайд-паркам. Закаханы французы ў парыжскую Плошчу Зоркі і Елісейскія палі. Вядомы на ўвесь свет непаўторныя вуліцы-каналы Венецыі. Хто з тых, што былі ў Вене, не захапляўся Пратэрам? Па праву адносіцца да ліку прыгажэйшых вуліц свету берлінская Унтэр-дэн-Ліндэн.

Але няма ні ў адным з тысяч і тысяч гарадоў зямлі места, якое магло-б супернічаць у славе з Краснай плошчай Масквы.

Красная плошча — не проста цэнтральная плошча сталіцы Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Красная плошча — гэта галоўная плошча ўсёй нашай планеты. Сюды, да старажытных Крэмлёўскіх сцен, прывык савецкі народ прыносіць сваю радасць у дні свят і перамог, сваю цвёрдую рашучасць у часы суровых выпрабаванняў, свой чалавечы смутак у гадзіны журбы і жалобы...

Сюды выходзілі на першыя ваенныя парады часці маладой Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая абараняла вялікія заваёвы Кастрычніка ад белагвардзейцаў і інтэрвентаў. Тут прымаў гэтыя парады вялікі Ленін. Сюды ў гады першых пяцігодак ішлі ў святы шматтысячныя калоны маскоўскіх рабочых са сцягамі і маляўнічымі транспарантамі, з дыяграмамі і ўзорамі прадукцыі, расказваючы краіне пра свае поспехі і дасягненні. Тут у марозны дзень шостага лістапада тысяча дзевяцьсот сорак першага года кляліся Сталіну адстаяць сталіцу салдаты Савецкай Арміі і проста адсюль, ад зацярушаных снегам ялін ля сцен Крэмля, накіроўваліся на перадавую... Сюды, на Красную плошчу, прыходзяць і цяпер двойчы ў год прадстаўнікі працоўных Масквы, дэманструючы сваю згуртаванасць вакол Комуністычнай партыі, сваю адданасць вялікай справе комунізма... Тут, на трыбунах, стаяць 1 мая і 7 лістапада дэлегаты нашых замежных братоў па класу, са слязмі радасці на вачах яны вітаюць нашу сілу — апору спакою і шчаслівай будучыні ўсіх народаў зямлі.

Уся гісторыя нашай рабоча-сялянскай дзяржавы — надзеі працоўных усяго свету — звязана з гэтым прасторным і велічным кавалкам свяшчэннай маскоўскай зямлі.

Таму Красная плошча — не проста плошча, а сімвал новай эпохі чалавечай гісторыі, сімвал праўды і справядлівасці, сімвал мірнай працы, шчасця, будучыні...

Тут, на Краснай плошчы, ля старажытнай сцяны Крэмля, узвышаецца будынак, падобнага якому няма нідзе ў свеце. Яго абрысы вядомы людзям ва ўсіх кутках зямлі, нават у самых далёкіх і глухіх. Колькі-б разоў вы ні бачылі гэты будынак, вы заўсёды будзеце здзіўляцца з яго непаўторных у сваёй прастаце і выразнасці ліній. Кажуць, што архітэктура — гэта акамянелая музыка. Гэта так, бо калі глядзіш на будынак ля Крэмлёўскай сцяны, усёй душой адчуваеш, што ён, гэты будынак, — сапраўды з геніяльнай сілай увасоблены ў чорны лабрадор і чырвоны граніт жалобны марш, у якім маўкліва гучаць гора і смутак працоўнага чалавецтва...

Гэты будынак — Маўзалей Леніна і Сталіна.

...Ад самага Александраўскага сада, міма Гістарычнага музея, выгінаючыся па Краснай плошчы, павольна рухаецца бясконцая чарга людзей. Яны прышлі да Леніна і Сталіна...

Прайдзіце ўздоўж калоны. Прыгледзьцеся да людзей. Прыслухайцеся да нягучных размоў, і перад вамі адчыняцца глыбокія, шчырыя і мужныя пачуцці, што жывуць у душы народа — бязмежная любоў да заснуўшых вечным сном правадыроў, глыбокая пашана да светлай памяці тытанаў, якія паказалі чалавецтву шлях уперад і якія ішлі па гэтаму шляху на чале авангарда вялікай рабоча-сялянскай арміі — Партыі комуністаў.

Тут, у чарзе да Маўзалея, можна пачуць мовы і гаворкі ўсіх народаў нашай краіны — дакладнае і трапнае рускае слова, мяккую гаворку беларуса, меладычную мову ўкраінца, зычнае вымаўленне казаха. Тут можна ўбачыць славутага маскоўскага токара і хлебароба з Кіеўшчыны, мінскага трактарабудаўніка і рыбака з Далёкага Усходу, настаўніцу з Якуцка і пагранічніка з Таджыкістана. Сюды ідуць дзеці і старыя, маладзенькія студэнты і сталыя мужчыны. Ідуць простыя людзі: будаўнікі і стваральнікі, вучоныя і пісьменнікі, вынаходцы і земляробы — завяршальнікі лёсу новага свету, волаты, якія ператвараюць у жыццё запаветы Леніна і Сталіна.

Вось гутараць у чарзе двое. Адзін — высокі, плячысты, па-сталічнаму апрануты ў шырокае моднае паліто і рыжую пыжыкавую шапку. На хударлявым паголеным твары халодна паблісквацюь шэрыя вочы. Другі — сярэдняга росту, у кароткім кажушку, з энергічнымі рысамі абветранага круглага твару. Відаць, пазнаёміліся тут, па дарозе да Маўзалея.

— Ад'язджаю з Масквы, — тлумачыць першы. — Надумаўся працаваць у вёсцы. Падаў заяву ў МК, учора атрымаў прызначэнне — галоўным інжынерам МТС.

— Вось яно што! — сусед з павагай глядзіць на яго. — А сям'я як?

— Са мной: не на год еду. Назусім. Трэба сельскую гаспадарку ўздымаць. Без нас, інжынераў, нічога не выйдзе. Вось перад ад'ездам і іду ў Маўзалей. Хто ведае — калі яшчэ ў Маскве прыдзецца пабываць...

— Гэта вы правільна, — згаджаецца той, што ў кажушку. — Я вось упершыню ў Маскве. Праездам. Учора толькі прыехаў. У адпачынак на поўдзень еду. І таксама ў першую чаргу сюды — да Леніна, да Сталіна. Так... — задуменна гаворыць ён. — А вы масквіч?

— Карэнны, — адказвае субяседнік.

— Цяжка, вядома, вам са сталіцай развітацца. Каму хочацца з дому, ды яшчэ з Масквы, ехаць! Але правільна вы рашылі. Вось я думаю: пусцім мы Куйбышэўскую ГЭС, — я-ж на будаўніцтве экскаватаршчыкам працую, — якую тэхніку можна будзе ў заволжскіх сёлах пусціць! Але калі тэхніка, значыцца, і інжынеры там патрэбны, тэхнікі, электрыкі... Правільна вы рашылі, так, — яшчэ раз цвёрда гаворыць ён.

— Так, тэхніка, — паўтарае масквіч. — А вось памятаеце, Уладзімір Ільіч марыў аб тым, каб даць нашай вёсцы сто тысяч трактароў, пасадзіць на іх рускага селяніна і павярнуць яго да комунізма. Ці даўно гэта было, га? А цяпер! Толькі пасля вайны наша вёска атрымала сотні тысяч трактароў, камбайнаў. Якая сіла! Але вось не ўсюды яшчэ навучыліся як след яе выкарыстоўваць...

— Нічога! — адказвае экскаватаршчык. — Цяпер усё на ўздым у сельскай гаспадарцы пойдзе. Калі партыя пастанавіла — усё будзе!

— І не толькі ў сельскай гаспадарцы, — уступае ў размову новы субяседнік, светлавалосы мужчына з раскошнымі вусамі. — Пра нас партыя таксама важнае слова сказала.

— Пра каго гэта — пра вас? — зацікавіўся куйбышэвец.

— Пра нас, пра тэкстыльшчыкаў, — тлумачыць вусаты. — Вялікія справы нам намечаны. Каб праз два-тры гады ўсе былі апрануты добра, прыгожа, модна. Калі таварыш Маленкоў сказаў, што спажывец часта аддае перавагу замежным таварам, — я, ці верыце, ледзь ад сораму не згарэў. Гэта-ж і нам, ткачам, адрасавана! Але нічога, шмат што ўжо мяняць пачалі...



**Масква. Красная плошча. Працоўныя накіроўваюцца ў Маўзалей Леніна і Сталіна.**
Фото В. Савасцянава. (Фотахроніка ТАСС.)

Ідучы ў Маўзалей, да Леніна і Сталіна, савецкі чалавек, хто-б ён ні быў, думае аб створанай Леніным і партыяй дружбе народаў нашай краіны — адной з важнейшых асноў Совецкай многанацыянальнай дзяржавы. Зараз яго думкі асабліва прыпыняюцца на вялікім свяце рускага і украінскага народаў, усіх народаў СССР — трохсотгоддзі ўз'еднання Украіны з Расіяй, падзеі, якая ў шмат разоў павялічыла сілы абодвух брацкіх народаў. Рускія і украінцы добра запомнілі выдатныя ленінскія словы: «Хто парушае адзінства і цяснейшы саюз вялікарускіх і украінскіх рабочых і сялян, той дапамагае Калчакам, Дзенікіным, капіталістам-драпежнікам іншых краін». Ленін гнеўна кляйміў заклятых ворагаў народа — вялікадзяржаўных рускіх шавіністаў і украінскіх буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся пасварыць працоўных двух брацкіх народаў.

Ідучы ў Маўзалей, да Леніна і Сталіна, совецкі чалавек думае аб соцыялістычным грамадстве, — шлях да гэтага грамадства паказалі Ленін і Сталін.

Ідучы ў Маўзалей, совецкі чалавек думае аб міры. За мір для ўсіх народаў зямлі ўпарта і паслядоўна змагаўся Владзімір Ільіч у крывавыя гады першай сусветнай вайны. Мір народам! — Такі быў сэнс аднаго з першых дэкрэтаў, прынятых па ініцыятыве Леніна Другім з'ездам Советаў праз некалькі гадзін пасля ўзяцця Зімняга. Мір, трывалы дэмакратычны мір, — такая была пастаянная мэта знешняй палітыкі Совецкага ўрада. Следуючы запаветам Леніна і Сталіна, упарта і настойліва змагаецца Совецкі Саюз за мір і сёння. Гэта добра ведаюць усе людзі на зямлі.

Ідучы ў Маўзалей, да Леніна і Сталіна, кожны думае аб вялікіх ленінскіх ідэях пралетарскага інтэрнацыяналізма, аб тым, што Ленін і Сталін разглядалі перамогу рэвалюцыі ў нашай краіне як базу развіцця сусветнай соцыялістычнай рэвалюцыі. І зараз мы з гордасцю ўсведамляем, што па нашых слядах, па шляху, указанаму Леніным і Сталіным, ідзе ўжо восемсот мільёнаў чалавек, свабодных ад капіталістычнага нявольніцтва. Мы цвёрда ведаем, што цяпер усе дарогі ў свеце вядуць да комунізма.

У доўгай чарзе людзей, якія ідуць у Маўзалей, можна ўбачыць пасланцоў самых рознастайных народаў, нашых гасцей з усіх краін Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі, Аўстраліі. Тут і нашы таварышы з краін народнай дэмакратыі, і нашы браты з капіталістычных і каланіяльных краін, якія змагаюцца за свабоду. Чэх і кітаец, паляк і карэец, албанец і немец, амерыканец і філіпінец, мексіканец і араб, француз і в'етнамец, інданезіец і негр з Берага Слановай Косці, індус і малаец, — усе яны прышлі сюды, да вялікай магілы, да свяшчэннага для ўсяго чалавецтва месца, каб пакляцися ў вернасці ідэям Леніна і Сталіна, у вернасці іх сцягу, іх запаветам, іх вялікай партыі...

Плыве, плыве бясконцае людское шэсце...

Яшчэ далёка да Маўзалея, але ўжо сціхаюць размовы, робяцца маўклівымі нават неўгамонныя рэбяты. Мужчыны здымаюць шапкі, прыкладу іх следуюць віхрастыя хлапчукі...

Праз высокія дзверы, міма юнакоў у армейскай форме, што застылі з вінтоўкамі ў руках, павольна ўваходзяць людзі ў вечную ўрачыстую цішыню ўсыпальніцы двух гігантаў — правадыра Вялікай рэвалюцыі і прадаўжальніка яго неўміручай справы...

Не адрываючы напружанага позірку ад знаёмых, родных твараў, імкнучыся затрымацца тут, у Маўзалеі, хоць-бы на адно лішняе імгненне, праходзяць людзі міма саркафагаў.

— Асцярожна... Прыступка, — паціху папярэджвае дзяжурны.

І вось людзі выходзяць з Маўзалея на Красную плошчу — маці ўсіх плошчаў зямлі. Яны чуюць размераныя ўдары курантаў на Спаскай вежы — гадзінніка, які вымярае бурны бег маскоўскага часу, гадзінніка, які першым у свеце адзначае тое імгненне, калі наша цудоўнае сёння робіцца нашым яшчэ больш велічным заўтра.

І доўга яшчэ людзі ідуць з Маўзалея моўчкі, захопленыя вялікімі думкамі і глыбокімі пачуццямі, думкамі і пачуццямі, якія цяжка, вельмі цяжка выказаць словамі... Доўга яшчэ ідуць людзі з непакрытымі галовамі, і лёгкі марозны вецярок варушыць іх валасы...

Яны пакланіліся Леніну і Сталіну...

П. ШАСЦЕРЫКОЎ

# Экзамен прадаўжаецца



Галоўны інжынер Чэрыкаўскай МТС І. Буранкоў (злева), механік-кантралёр І. Баркоў і ўчастковы механік І. Крывашэеў аглядаюць адрамантаваны трактар.

Іван Буранкоў, выпускнік Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, рыхтаваўся да абароны дыплома. Яго моцна захапіла тэма «Эксплуатацыя трактарнага парка Клімавіцкай МТС з распрацоўкай тэхналогіі ўборкі збожжавых культур». Заўсёды, калі Іван садзіўся за работу, перад яго вачыма паўставалі бяскрайнія палі, мора залацістага збожжа з караблямі-камбайнамі. Усё было так, як у кіно, прыгожа, зладжана. Але ў жыцці часта выходзіла па-іншаму. Іван успамінае, як у адным калгасе ён бачыў многа каласоў на іржышчы, дзе было палеглае жыта. Тады і ўзнікла думка вынайсці такое прыстасаванне да снопавязалкі, якое дапамагло-б праводзіць уборку палеглага жыта без страт.

Іншы раз у пакой інтэрната забягала Таня.

— Працуеш? Атрымліваецца? Ну, не буду табе перашкаджаць, — гаварыла яна і з лагоднай усмешкай хавалася за дзвярыма.

Гэтыя кароткія наведванні каханай дзяўчыны падбадзёрвалі Івана. Паміж Таняй і Іванам даўно было вырашана: як толькі ён абароніць дыплом, яны згуляюць вяселле. А потым Таня перавядзецца на завочнае аддзяленне зоатэхнічнага факультэта і яны будуць працаваць у адной МТС.

І вось настаў даўночаканы дзень абароны дыплома. Каранасты, круглатвары, Іван Буранкоў усхвалявана хадзіў каля схем і растлумачваў прынцыпы работы свайго вынаходніцтва. Камісію яно вельмі зацікавіла. Івана засыпалі пытаннямі. І раптам выявілася, што ён упусціў вельмі важную дэталь: пры ўборцы сырога збожжа салома будзе наматвацца на вал прыстасавання. «Зрэзаўся...» — прамільгнула думка. Але праэктар акадэміі Турбін павіншаваў яго з паспяховай абаронай дыплома.

— Вы, Буранкоў, добра справіліся са сваёй дыпломнай работай, добра задумалі прыстасаванне, але пры гэтым зыходзілі з таго, што ўся работа будзе, так сказаць, у ідэальных умовах. Вы не ўлічылі практычнага прымянення прыстасавання. Вы-ж будзеце абараняць свой дыплом на практычнай рабоце!

Было крыху сорамна за свой промах, але радасна: вучоба закончана.

Таня не прысутнічала пры абароне дыплома, аб гэтым прасіў яе сам Іван. Але яна ўвесь час знаходзілася непадалёк і хвалявалася не менш за яго.

— Цяжкі экзамен? Што атрымаў? — спытала яна яго.

— Чатыры!

Таня хуценька пацалавала яго ў шчаку, пачырванела, агледзелася па баках, ці не бачыў хто. Потым засмяялася: яна-ж яго жонка...

Увечары за вясельным сталом яны сядзелі побач. У шэра-блакітных іванавых вачах свяціліся агеньчыкі. Таня была таксама надзвычай усхваляваная. Ды як не хвалявацца! Што чакае наперадзе? Шчасце... Яна прытуляецца да свайго інжынера-механіка. Як непрывычна гучаць гэтыя словы — інжынер-механік! А яшчэ ўчора ён быў проста студэнт, выпускнік, дыпломнік. Тані здаецца, быццам ён за гэтыя дні падрос, пасталеў.

За сталом весела. Пакой інтэрната перапоўнены. Яе, танінаму, шчасцю ўсе радуюцца і крычаць: «Горка! горка!»

... Праз некалькі дзён выехалі ў вёску Людкова Быхаўскага раёна, дзе жыла маці Івана. Адпачынак праляцеў непрыкметна, але ні Іван, ні яна ніколі не забудуць гэтае лета. Назаўсёды застанецца ў памяці ласкавае ліпеньскае сонца, імклівыя хвалі Дняпра і пачатак іх шчасця.

У жніўні Івана Буранкова выклікалі ў Магілёў.

— Ты-ж, Ванечка, глядзі, прасіся ў Быхаўскую МТС, будзем працаваць разам, — наказвала Таня.

Але начальнік абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі прапанаваў яму застацца інжынерам у штаце ўпраўлення, у аддзеле эксплуатацыі і рамонту.

— Я хачу ў МТС, — заявіў Буранкоў.

Прышлося звярнуцца за дапамогай у абком партыі, толькі тады яго жаданне было задаволена. Аб Быхаўскай МТС ужо не было і гутаркі, яго накіравалі галоўным інжынерам у Чэрыкаўскую МТС.

Да месца прызначэння ён ехаў на спадарожных машынах. На сэрцы было некалькі тужліва, як заўсёды пры перамене месца. Але ведаў: ён больш патрэбны ў Чэрыкаўскай МТС, дзе вельмі мала кваліфікаваных кадраў. Толькі — што яго чакае там, як яго сустрэнуць?

Да яго аднесліся недаверліва: малады, нявопытны, куды яму галоўным інжынерам! Аднойчы выпадкова давялося пачуць размову

брыгадзіраў трактарных брыгад. Нехта басістым голасам расказваў:

— Ідзе ён, бачыць гусенічны трактар і пытаецца: «Чаму трактар няспраўны? Чаму колы з яго паздымалі?»

Пачуўся гучны смех. Іван Буранкоў некалькі мінут пастаяў на ганку канторы. Пачаў гаварыць другі. Ён у камічных тонах расказаў аб тым, як інжынер «шукаў іскру».

— Дыплом — паперка, ведаў яна не прыбавіць! — зрабіў хтосьці вывад.

Значыць, брыгадзіры гавораць пра яго. Буранкоў рашуча ўвайшоў у кантору. Смех абарваўся. З хвіліну ў пакоі стаяла цішыня. Потым брыгадзір трактарнай брыгады Кухарэнка выйшаў наперад. У руках ён трымаў невялічкую палатняную торбачку.

— Таварыш галоўны інжынер, мне патрэбна дэталь замяніць... Трактар прастойвае.

— Якую дэталь?

Кухарэнка, трымаючы ў далоні вузел торбачкі, працягнуў яе галоўнаму інжынеру і сказаў:

— Вы інжынер, вось і пазнайце, што гэта за дэталь.

Ад нечаканасці Іван спачатку разгубіўся. Можа лепш не адказваць на такі злосны жарт... Але гэта выклікае яшчэ большае недавер'е. І ён рашуча падышоў да Кухарэнкі.

— Ката ў мяшку не купляюць, але на першы раз адкажу, каб не зубаскалілі.

Праз палатно ён абмацаў дэталь, якая ляжала ў торбачцы, і звярнуўся да кладаўшчыка.

— Ці ёсць у кладовай рэгулятар абаротаў ХТЗ? Калі ёсць — можаце выпісаць!

Маладому інжынеру прыйшлося пераадолець і недавер'е дырэктара МТС Адама Сямёнавіча Валатоўскага.

У калгасе імя Ракасоўскага Халмянскага сельсовета сапсаваўся трактар і зрываўся ўздым зябліва. Неабходна было тэрмінова адрамантаваць карэтку пясочніцы. Валатоўскі сказаў інжынеру:

— Іван Лазаравіч, спытайцеся ў Строя, ці не можна хутка адрамантаваць карэтку пясочніцы?

Маладому галоўнаму інжынеру такое распараджэнне здалося абразай, але ён усётакі звярнуўся да Віктара Міхайлавіча Строя, які да яго прыезду выконваў абавязкі галоўнага інжынера. Той, знарок расцягваючы словы, адказаў:

— Не, так хутка не адрамантуем. Ды і наогул можа нічога не атрымацца.

Іван Буранкоў выклікаў токара, зваршчыка і з імі самастойна вырашыў пытанне. Цяпер і дырэктар убачыў, што інжынер хоць і малады, але справу ведае добра.

...Пасля верасНёўскага Пленума Іван Лазаравіч яшчэ больш упэўніўся, што прыняў правільнае рашэнне адносна паездкі. На МТС пленумам ускладвалася рашаючая задача па далейшаму ўздыму сельскай гаспадаркі. Сюды з прадпрыемстваў прыбывалі новыя людзі.

Але работа не ладзілася. Трактарысты парушалі элементарныя правілы эксплуатацыі. Графікі тэхнічнага догляду не выконваліся. Кожны дзень прыходзілася ездзіць у трактарныя брыгады выпраўляць недахопы. Загадчык майстэрні тэхнік-механік па апрацоўцы дрэва аказаўся дрэнным арганізатарам. Ён па некалькі дзён не выходзіў на работу, п'янстваваў. Токар Мікалай Мельнікаў, які прыехаў з Магілёва, трапіўшы ў новую, непрывычную абстаноўку, выконваў нормы на 20 — 30 працэнтаў.

Наступіў кастрычнік. У майстэрню МТС адзін за другім паступалі няспраўныя трактары. Як і ў мінулым годзе, кожны трактарыст разбіраў сваю машыну. Хто паспеў раней прыехаць на сялібу МТС, той трапіў у памяшканне майстэрні або ў гараж, а хто пазней — працаваў пад адкрытым небам. У майстэрні адсутнічаў усякі парадак. Тэхнік-механік Міхаіл Гайдусаў часта пакідаў майстэрню, таму трактарысты самі звярталіся да токараў, свідравальшчыкаў, фрэзероўшчыкаў і заказвалі неабходныя дэталі. Іван Лазаравіч паспрабаваў укараніць вузлавы метад. Ды ніхто і слухаць не хацеў аб гэтым!

— У нашай брыгадзе ўсяго два трактары,— абурыўся брыгадзір Міхась Гуркоў. — А мяне прымушаюць рамантаваць 70 трактараў. Не, так не згодзен!

— Вы цяпер пастаянныя рабочыя МТС, дзяржава клапоціцца аб вас, рамонтныя работы добра аплачваюцца. Чаго вам яшчэ трэба? — пытаецца галоўны інжынер.

— У якіх умовах мы працуем, колькі зарабляем на рамонце? Спаць няма дзе, сталовай няма. Ну, адпакутую я тут тыдзень-другі, адрамантую два трактары і дамоў. А так усю зіму трэба працаваць!

«Значыць, трэба глядзець шырэй, — вырашыў інжынер. — Па-новаму наладжваць усю работу».

На дапамогу галоўнаму інжынеру прыйшла партыйная арганізацыя.

Неўзабаве вузлавы метад прабіў сабе дарогу. Але яго практычнае ўкараненне аказалася нялёгкім. Многія трактарысты не выходзілі на работу, а калі іх выклікаў да сябе інжынер, апраўдваліся, што ім трэба прывесці ў парадак асабістую гаспадарку. У суботу усе рамонтнікі адразу-ж пасля абеду ішлі дадому і прыходзілі ў МТС у панядзелак вечарам, або нават і ў аўторак. Трактарысты яшчэ не адчувалі сябе кадравымі рабочымі. Таму па рамонту трактараў МТС аказалася на адным з апошніх месц у вобласці.

Дырэктар МТС атрымаў чарговы адпачынак. Выконваць яго абавязкі стаў галоўны інжынер. Цяпер работы Івану Лазаравічу прыбавілася. Трэба было цікавіцца падрыхтоўкай жывёлы да зімоўкі, забеспячэннем яе кармамі, засыпкай і ачысткай насення ў калгасах зоны, нарыхтоўкай і вывазкай мясцовых і мінеральных угнаенняў.

З калгасаў паступалі нярадасныя весткі. У калгасе «Другая пяцігодка» Рэчыцкага сельсовета зусім не пачыналася нарыхтоўка і вывазка торфу. Буранкоў разам з галоўным аграномам Маркавым выехалі туды. Старшыня праўлення ў сваё апраўданне заявіў, што на тэрыторыі калгаса няма торфу. Каб абвергнуць яго довад, Буранкоў і Маркаў абыйшлі ўсе калгасныя палі і знайшлі торф.

Узнік шэраг пытанняў і пры будаўніцтве новай канторы. У драўляных будынках атынкоўку, як правіла, робяць на наступны год. Значыць, атынковачныя работы адкладваюцца да вясны. Але што рабіць з электраасвятленнем? Праводзіць зараз, а потым увесну здымаць — дарэмная трата грошай. І тут малады інжынер даў вельмі карысную параду. Ён прапанаваў устанаўліваць ролікі на вузкіх дошчачках таўшчынёй слоя будучай атынкоўкі. Пытанне было вырашана.

Прыкметна павысілася прадукцыйнасць працы. Токар Мельнікаў, які ў першыя дні хацеў вяртацца ў Магілёў, з дапамогай галоўнага інжынера і загадчыка майстэрні раздзяліў працэс апрацоўкі дэталей і даваў выпрацоўку да 350 працэнтаў нормы. Камсамольцы абралі яго членам камітэта. Гуркоў, які пазбягаў рамонту вузлавым метадам, стаў сцвярджаць, што гэты метад — самы правільны.

— Я ведаю і сваё рабочае месца, і інструмент, які мне патрэбен, і дэталі. Загадзя ведаю, якую работу буду выконваць.

Але і цяпер не ўсё ішло гладка. Часам узнікалі незалежачыя ад рамонтнікаў перашкоды. Нехапала запасных частак, больш за ўсё унутраных і знешніх утулак балансіра. Іван Лазаравіч параіўся з вопытнымі механізатарамі.

— Летась спрабавалі рабіць са старых лемяхоў, ды нічога не атрымалася, — сказалі яму.

Гэтая думка — рабіць утулкі з лемяхоў — спадабалася галоўнаму інжынеру.

— Паспрабуем сёлета, можа атрымаецца!

Усе дробязі ён абмеркаваў з кавалём Леонавым, зваршчыкам Захарэнкам і токарам Ліпенковым. Яны ўлічылі мінулагодніх памылкі. Для больш дакладнай коўкі былі зроблены прыстасаванні, і неўзабаве ўтулкі балансіра не затрымлівалі больш рамонту.

У майстэрні МТС адсутнічала працёйшая механізацыя. Працаёмкія работы выконваліся ўручную. Каб паставіць матор на стэнд для абкаткі, трэба было адрываць ад другіх работ па дзесяць-дванаццаць чалавек. Галоўны інжынер прапанаваў устанавіць рухомую таль.

— Як яе паставіць? Столь не вытрымае, абваліцца, — папярэджвалі яго.

Іван Лазаравіч згадзіўся з гэтым, і таль паставілі на спецыяльных апорах.

Галоўны інжынер не замыкаецца ў рамках сваёй спецыяльнасці, ён актыўна ўдзельнічае ў грамадскай рабоце. Іван Буранкоў, — член камітэта камсамола, агітатар. Ён кіруе камсамольскім палітгуртком, праводзіць тэхнічную вучобу з рамонтнікамі.

Вялікія планы ў яго на будучае. Разам з загадчыкам майстэрні ён склаў план пераабсталявання майстэрні і далейшага ўдасканалення вытворчых працэсаў, думае аб аператыўнай дапамозе механізатарам на палявых работах.

— Нялёгкая праца ў МТС, — гаворыць Іван Лазаравіч. — Але я задаволены ёю. Я тут атрымаў сапраўднае творчае задавальненне. Я ўвесь час памятаю, што тут прадаўжаецца абарона дыплома, цяжкі экзамен на званне савецкага інжынера. І гэта дапамагае мне...

**Чэрыкаўскі раён**
**Магілёўскай вобласці.**



**Пасяджэнне камітэта камсамола МТС. Іван Буранкоў (злева) дакладвае аб ходзе рамонту трактараў і сельскагаспадарчых машын.**
Фото Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА.)



# У Кіеве



Споўнілася 300 год з дня ўз'еднання Украіны з Расіяй. Навек злучыўшы лёс з брацкім рускім народам, украінскі народ забяспечыў магчымасць свайго нацыянальнага развіцця. Разам з рускім і беларускім народамі ён прайшоў слаўны шлях барацьбы і перамог.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя назаўсёды вызваліла народы нашай Радзімы ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, стварыла ўмовы для росквіту соцыялістычных нацый, дружбы і цеснага супрацоўніцтва ў справе будаўніцтва комуністычнага грамадства.

Урачыстыя дні перажывае зараз сталіца Совецкай Украіны — старажытны Кіеў. За гады пасляваеннага будаўніцтва Кіеў стаў адным з прыгажэйшых гарадоў нашай вялікай краіны. Паспяхова ажыццяўляецца генеральны план рэканструкцыі украінскай сталіцы. Ва ўсіх канцах горада з руін і папялішчаў выраслі тысячы новых прыгожых дамоў. Пасля вайны тут адноўлена і нанава пабудавана больш паўтара мільёна метраў жыллёвай плошчы. Зараз у Кіеве будуецца каля 200 шматпавярховых дамоў, адноўлена ўся комунальная гаспадарка. Створаны сотні школ, тэхнікумаў, інстытутаў, навуковых устаноў. Цяпер у Кіеве навучаецца звыш 33 тысяч студэнтаў.

А паглядзіце на галоўную вуліцу Кіева — Крэшчацік! Да неба ўзнімаюцца на ёй светлыя дамы-палацы, шуміць і бурліць вуліца няспыннай людской плынню, сотнямі аўтамашын і тралейбусаў. Пашырэў, памаладзеў Крэшчацік! Нездарма так любяць яго і так ганарацца ім кіеўляне.

У гэтыя дні кіеўляне, дэлегаты брацкіх рэспублік — частыя наведвальнікі Дзяржаўнага гістарычнага музея. Яны прыходзяць сюды, каб пазнаёміцца з экспанатамі, якія расказваюць аб гераічнай барацьбе украінскага народа пад кіраўніцтвам Багдана Хмельніцкага за сваё вызваленне ад чужаземных прыгнятальнікаў і за ўз'еднанне з Расіяй.



На здымках: **Помнік Багдану Хмельніцкаму ў Кіеве.**

Фото Я. Халіпа.

**Галоўная вуліца Кіева — Крэшчацік.**

Фото М. Мельнікава. (Фотахроніка ТАСС.)

**Зала Багдана Хмельніцкага ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Кіеў). Ля карціны «Пераяслаўская Рада».**

Фото Я. Халіпа.

# Новыя адрасы

З часу апошніх выбараў у Вярхоўны Совет СССР прайшло толькі чатыры гады, а як змянілася за гэты час жыццё ў нашай краіне!

У дні падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет СССР рэдакцыя «Маладосці» звярнулася да фотахронікі БЕЛТА з просьбай падабраць здымкі будоўляў рэспублікі, якія ўзводзіліся ў перыяд паміж мінулымі і сёлетнімі выбарамі. Здымкаў набралася столькі, што імі можна было-б запоўніць увесь часопіс. Былі тут новыя фабрыкі, заводы, клубы, кінотэатры, бальніцы, навучальныя ўстановы, жылыя дамы і адміністратыўныя будынкі, новыя стадыёны і нават нядаўна ўступіўшы ў строй басейн для плавання. Вось некаторыя з гэтых здымкаў.

Тэкст А. АСІПЕНКІ.






У гады панавання пілсудчыкаў у былой Заходняй Беларусі прамысловыя прадпрыемствы закрываліся нават у такіх гарадах, як Гродна, Брэст, Баранавічы. Пры совецкай уладзе прамысловасць вырасла не толькі ў буйных гарадах, але і ў гарадскіх пасёлках, у кожным раённым цэнтры.

Скідзель — адзін з маленькіх гарадоў заходніх абласцей Беларусі. У апошнія чатыры гады тут уступіў у строй цукровы завод. Сыравіну яму даюць гродзенскія калгаснікі, а яго прадукцыя ідзе ва ўсе куткі Беларусі.

На здымку злева — участак дыфузных батарэй цукровага завода.






За апошнія чатыры гады калгасы рэспублікі пабудавалі дзесяткі электрастанцый. Тысячы дамоў калгаснікаў атрымалі электрычнае святло, у сотнях калгасаў малацьба, даенне кароў, нарыхтоўка кармоў праводзіцца пры дапамозе электрычнасці.

На здымку: агульны выгляд Навасёлкаўскай міжкалгаснай ГЭС Дзятлаўскага раёна.






Сельская гаспадарка рэспублікі няўхільна ідзе па шляху механізацыі.

З'явіліся такія машыны, якія карэнным чынам мяняюць характар калгаснай вытворчасці. Асабліва бурна ідзе механізацыя сельскай гаспадаркі пасля рашэнняў вераснёўскага Пленума ЦК КПСС. У радзе калгасаў ужо механізаваны жывёлагадоўчыя фермы, машынамі праводзіцца апрацоўка зямлі і ўборка ўраджаю. Створаны новыя МТС.

Зусім нядаўна была створана Ждановіцкая МТС у Мінскім раёне. Дырэктарам яе прызначаны Максім Усцінавіч Крыцкі.

— Вось Максім Усцінавіч, тут і будзе размешчана ваша МТС, — гаворыць дырэктару намеснік старшыні Мінскага сельскага райвыканкома Міхаіл Іванавіч Баравікоў. (Здымак злева.)

Вырас добрабыт народа. З кожным годам узрастае попыт на тавары народнага ўжытку. Хлопцам падавай веласіпеды, матацыклы, а дзяўчатам — швейныя машыны! Каб задаволіць гэтыя запатрабаванні, у рэспубліцы працуюць два заводы: мотавелазавод, які ўжо даўно дае прадукцыю краіне, і Аршанскі завод швейных машын, які нядаўна асвоіў выпуск новага віду машын першага класа.

На здымку: у зборачным цэху Аршанскага завода швейных машын.






Непазнавальна змяняецца аблічча калгаснай вёскі. Узбуйненне калгасаў адкрыла новыя шляхі да росквіту не толькі гаспадаркі, але і культуры калгаснага сяла. Будуюцца новыя сельскія клубы, кінотэатры, радыёвузлы, стадыёны.

На здымку: новы клуб у калгасе «Чырвоны сцяг» Вілейскага раёна. Гэта сапраўдны палац культуры!






А колькі пабудавана новых дамоў за час, што прайшоў з мінулых выбараў у Вярхоўны Совет СССР! Выраслі цэлыя кварталы, вуліцы. Вось адна з новых вуліц на былой ускраіне Мінска. Яе будавала моладзь, і яна носіць імя маладога героя Айчыннай вайны Алега Кашавога. Заселены дамы на гэтай вуліцы ў большасці маладымі трактарабудаўнікамі.

Такая ўжо совецкая рэчаіснасць, што кожны дзень што-небудзь уступае ў строй, кожны дзень з'яўляюцца новыя адрасы!



Ул. МЕХАЎ

# Заліковая кніжка Міколы Крукава

Экзамен праходзіў незвычайна. Можна было падумаць, што два калегі-інжынеры, адзін крыху маладзейшы, а другі — старэйшы, вядуць між сабою размову. Чалавек з сівізною на скронях і высокім з залысінамі ілбом горача спрачаўся, даводзячы маладому, што ў новай тэхналогіі, якая ўведзена нядаўна ў цэху шасі аўтазавода, ёсць нямала памылак. Кожны свой довад ён абгрунтоўваў тэарэтычна і пры гэтым прыкрываў рукою хітраватую ўсмешку. Але юнак не разумеў выкладчыка. Ён даводзіў, што выкладчык не ўлічвае асаблівасцей, з якімі ў цэху даводзіцца сустракацца. Малады аперыраваў назвамі станкоў, разлікамі рэжыму рэзання, звесткамі аб магутнасцях пнеўматычнай сістэмы і энергамагчымасцях прадпрыемства.

У дзверы зазірнулі студэнты. Тады выкладчык сказаў:

— Хопіць, таварыш Крукаў. Дзе ваша заліковая кніжка?

— Яшчэ не ўсё, — заспяшаўся юнак. — Я-ж вам не адказваў яшчэ на білет!

— Вы мне адказалі больш, чым на білет, — шчыра пазіраючы на юнака, адказаў экзамінатар. — У білеце якіх-небудзь два-тры пытанні, а вы мне зараз вельмі пераканаўча паказалі веданне як майго курса, так і шэрагу іншых прадметаў.

Магчыма, калі-б гэта адбылося не з Міколам Крукавым, а са звычайным студэнтам звычайнай ВНУ, аб ім расказвалі-б, як аб нечым такім, што ніколі дагэтуль не сустракалася. Але ў мінскім аддзяленні Ленінградскага завочнага індустрыяльнага інстытута, дзе займаюцца Крукаў і яго таварышы, такія выпадкі здараюцца часта, і ні ў кога яны не выклікаюць здзіўлення. Не звычайны гэта інстытут, не звычайныя ў ім і студэнты.

Што і казаць, у нашых тэхнічных інстытутах ёсць яшчэ нямала студэнтаў, якія прышоўшы на завод, губляюцца, убачыўшы, што станкі ў цэху стаяць крыху іншыя ад тых, аб якіх пісалася ў падручніку, а метады працы выкарыстоўваюцца зусім не тыя, пра якія расказвалася на лекцыі... Мікола Крукаў і яго сябры пазнаёміліся з заводскім цэхам да таго, як вывучыць старонкі тэхнічных кніг. Веды, якія яны атрымоўваюць у завочным інстытуце, кожны дзень замацоўваюцца на вытворчасці, у практычнай рабоце.

Ужо цяпер, перад абаронай дыпломнага праекта, вучоба ў інстытуце намнога пашырыла далягляд міколавай работы ў заводскім цэху... Калі-б Мікола займаўся на стацыянары, а не спалучаў паспяхова заняткі і працу, ён наўрад ці звярнуў-бы ўвагу на тое, з якой цяжкасцю на вертыкальна-фрэзерным станку апрацоўваюць рабочыя дэталь «крук буксірны». Студэнту, мусіць, ніколі ў галаву не прышла-б думка, што яму пад сілу прапанаваць удасканаленне да метаду, зацверджанага вопытнымі інжынерамі.

Але-ж Мікола не практыкант-навічок у сваім цэху. Назіраючы за тым, колькі часу займае ў рабочых устаноўка пад фрэзу буксірнага крука і здым яго пасля апрацоўкі, Мікола задумаўся: а ці нельга распрацаваць і прапанаваць больш просты метад устаноўкі і мацавання гэтай дэталі на станку? Думка доўга непакоіла яго.

Неяк ён спыніўся ля Ані Сафронавай, невысокай маладзенькай фрэзероўшчыцы, якой асабліва цяжка было закручваць вялікі буксірны крук. Закручваць трэба вельмі моцна, каб дэталь не паварухнулася на «стале» станка, а для гэтага нехапала сілы ў аніных руках.

— Што, таварыш студэнт, глядзіш? Дапамог-бы. Сам-жа не працуеш ужо на станку? — сказала дзяўчына, убачыўшы, з якой цікаўнасцю назірае за яе працай Мікола.

— Я і думаю, як табе дапамагчы. І не толькі табе...

— Ой, Мікола, даражэнькі! — Аня кінула трубу, якую надзявала на ключ, каб лягчэй было яго паварочваць, і сказала:

— Сапраўды, як тут удасканаліць?!. А то не працуем, толькі займаемся праклятым закручваннем!

Мікола ўсміхнуўся, а сам увесь час думаў, як палегчыць устаноўку буксірнага крука для фрэзероўкі. Пнеўматычны ціск — вось сіла, якую ён вырашыў прымусіць дапамагаць Ані Сафронавай. На дапамогу прышла тэарэтычная механіка, здадзеная яшчэ на трэцім курсе, два гады назад.

Сістэма пнеўматычнага ціску праходзіць па ўсіх цэхах аўтазавода. Але ці дастаткова будзе яе магутнасць? Цэлы вечар пайшоў на розныя падлікі і разлікі. Падручнікі і канспекты Крукава-студэнта вельмі дапамаглі Крукаву-рацыяналізатару... Да канца вечара было пераканаўча вылічана, што сіла пнеўматычнага ціску на дэталь дастатковая, каб буксірны крук стаяў на станку моцна...

Праз некалькі тыдняў у заводскае канструктарскае бюро паступілі эскізы арыгінальнага прыстасавання, якое дазваляла апрацоўваць на вертыкальна-фрэзерным станку не адзін, а адразу два буксірныя крукі. Яно рабіла надзвычай лёгкім і хуткім працэс устаноўкі і здыму дэталі са станка і ў некалькі разоў павышала прадукцыйнасць працы фрэзероўшчыка. Безумоўна, Мікола ніколі не мог-бы ўнесці такую прапанову, каб не вучыўся ў завочным інстытуце.

... Здарылася так, што яго прыстасаванне выпрабоўвалася на станку, за якім працавала Аня Сафронава. Вакол майстра, тэхнолага і аўтара прапановы сабралася нямала рабочых. На тварах іх яскрава было напісана, што ўсе яны шчыра ўзрадаваны міколавым вынаходніцтвам. Але асабліва задаволенай адчувала сябе Аня Сафронава, якая лічыла, што і яна мае дачыненне да гэтай навіны. Штохвіліны Сафронава падбягала то да майстра, то да тэхнолага, то да каго-небудзь з рабочых і, зазіраючы ў вочы, пытала:

— Ну, як? Нядрэнна? Малайчына! Які малайчына Мікола!

А калі Крукаў накіраваўся з майстрам і тэхнолагам у канструктарскае бюро расказаць аб выніках выпрабавання, яна жартаўліва сказала:

— Дайце вашу заліковую кніжку, я пастаўлю загадзя пяцёрку!

Потым засмяялася і пабегла ў глыбіню цэха. А майстар участка малады яшчэ хлопец Генадзі Васілеўскі заўважыў:

— У цябе, Мікола, усё цяпер вымяраецца адзнакамі ў заліковай кніжцы.

Праз некалькі дзён, прыпомніўшы гэтыя простыя словы, Мікола падумаў аб тым, які глыбокі сэнс у іх захаваны... Сіненькая, падобная да блакнота заліковая кніжка... Як многа, аказваецца, яна азначае! Яе чэсць дарагая цяпер не толькі яму аднаму.

... Начальнік цэха, збіраючы тэрміновую нараду, на якой нарміроўшчыку трэба было-б папрысутнічаць, гаворыць Крукаву, адпускаючы яго на кансультацыю:

— Добра, ідзі. Толькі не ўздумай на экзамене падводзіць, а то я цябе цэлымі вечарамі прымушу на нарадах сядзець!

... Некалькі тыдняў Мікола хварэў. Крыху ачуняўшы, ён хацеў ехаць на кансультацыйны пункт.

— Ты яшчэ нездаровы, пасядзі дома, — сказаў Уладзімір Кісялёў.

— Але-ж я намнога адстану!

— Нічога, дагоніш. Заўтра выкладчык спецыяльна збіраецца пад'ехаць на завод, каб з табой пазаймацца...

Вось якое вялікае месца заняла вельмі звычайная на выгляд кніжка з вынікамі здадзеных Крукавым залікаў і экзаменаў не толькі ў яго жыцці, але і ў жыцці таварышаў, выкладчыкаў, настаўнікаў. Усе яны сардэчна зацікаўлены, каб старонкі яе запаўняліся толькі высокімі адзнакамі, усе яны хочуць, каб з Крукава вышаў выдатны спецыяліст, каб скромны сялянскі хлопец з Палесся, які ў 1947 годзе паступіў на завод радавым рабочым, стаў кіраўніком на прадпрыемстве.

Хораша вучыцца, адчуваючы такую ўвагу! Намнога лягчэй становіцца і сядзець да поўначы, рыхтуючы чарговы чарцёж, і пасля дня напружанай работы ў цэху напружваць увагу, каб не прапусціць ніводнага слова выкладчыка на лекцыі або кансультацыі.

...Хутка праходзіць час, напоўнены хоць і нялёгкімі, але цікавымі справамі. Не агледзішся, як прабяжыць і гэты, апошні, год навучання ў інстытуце. Пакуль яшчэ па дарозе з аўтазавода ў політэхнічны інстытут, дзе размясціўся іх кансультацыйны пункт, Мікола і яго сябры: тэхнолаг цэха шасі Уладзімір Кісялёў, майстар ліцейнага цэха Мікола Корзун, служачы заводаўпраўлення Грыгорый Цвік і другія маладыя аўтазаводцы, якія займаюцца без адрыву ад вытворчасці, часцей за ўсё гавораць аб адным — аб дні, калі яны абмяняюць запоўненыя спісам здадзеных прадметаў заліковыя кніжкі на інжынерныя дыпломы. Але і цяпер хто-ні-хто і прагаворыцца аб запаветнай мары, якая тоіцца не толькі ў ягоным сэрцы:

— Закончым інстытут, а далей?.. Няўжо і скончыцца наша вучоба?

— Што ты! — упэўнена адказвае звычайна Мікола. — Закончым, а далей — зноў вучыцца... Растуць на аўтазаводзе свае інжынеры, будуць расці і кандыдаты навук!..

Янка НЕПАЧАЛОВІЧ

### У жыцці не бывае драбніц

Мне да болю жыццё падабаецца —
Я нідзе ў ім не бачу драбніц:
Мора бурнай вады сабіраецца
З рэк, якія з крыніц пачынаюцца,
З непрыкметных маленькіх крыніц.

Праз лясы і праз дзюны пясчаныя
Шлях вада змагла ў мора прабіць;
Так і мы, у сям'ю аб'яднаныя,
Мэце велічнай шчыра адданыя,
Перашкоды умеем крышыць...

Дзе-б Радзіма мяне ні паставіла,
Ці варштаты, ці сшыткі рабіць,
Доўг свяшчэнны мой — працу любіць:
Ёсць закон, залатое ёсць правіла —
У жыцці не бывае драбніц!

Права маю я тым ганарыцца,
Што любімая праца мая —
Справ вялікіх малая драбніца —
Уліваецца чыстай крыніцай
У работы людской акіян.

1

Было іх трое. Раніцай сталовая пуставала, таму, чакаючы кліентаў, дзяўчаты грэліся ля печы.

Спіной да яе прытулілася з ганарова ўзнятай галавой прыгажуня Міра і халоднымі карымі вачыма ўставілася ў акно. Каля Міры шчакой да белай кафлі прыгарнулася Надзя, пажылая жанчына. У яе заўсёды мёрзлі рукі, яна вадзіла далонямі па печы і раз-по-разу дзьмухала на іх, бо кафля пяклася. Трэцяя афіцыянтка, дзяўчына гадоў восемнаццаці — Люся — бегала па зале.

На Люсі была ружовая кофтачка, лёгкая, як ветрык. Светлыя валасы дзяўчыны абдымаў абадок з карункаў. Яна бегала ў тапачках і ўсё ўсміхалася. Скрозь шыбы падалі праменні сонца. Люся лёгкай паходкай пераступала гэтыя промні і ў зіхаценні крышталя на сталах была падобна, як у казцы. Вось яна села за стол, лыжкай пазваніла па фарфаравай талерцы і, аж заходзячыся ад смеху, з прытворнай строгасцю крыкнула:

— Афіцыянтка, меню мне! Бягом!

З-за буфета пазірала тоўстая цёця Глаша. Яна, як заўсёды, стаяла на адным месцы — ля піўной бочкі. Бочка цямнела вільготнымі плямамі, а нос і шчокі цёці Глашы чырванелі, дыхалі здароўем і задавальненнем. На цёці Глашы заўсёды бялеў чысты халат з квадратамі ад прасавання і дзіркамі ад гузікаў. Зараз буфетчыца радавалася люсіным дзівацтвам. Баючыся, каб дзяўчына чаго-небудзь не разбіла, цёця Глаша дабрадушна прабурчэла:

— Люська, угаманіся!

— Люська, угаманіся! — перадражніла буфетчыцу Люся. Увайшоў першы кліент.

Калі мала было людзей, афіцыянткі абслугоўвалі кліентаў не па сваіх сталах, а па чарзе. Зараз быў чарод Надзі, а потым Міры. Надзі не хацелася ісці да кліента, таму што надта прыемна стаяць ля печы. А Міра не ішла, бо ў яе была такая пераконанасць, што яна паступіла на працу сюды толькі для таго, каб выйсці замуж. Чалавек, які ўвайшоў, быў у гадах і, наогул, на погляд Міры, выгляд меў несімпатычны.

Хапіўшы са стала меню, да чалавека падбегла Люся і яшчэ на хаду запытала:

— Вам што?

Кліент адзеў акуляры, пачаў праглядаць меню. Праглядаў ён доўга, быццам там былі не літары, а макавыя зерні. Потым стаў уголас чытаць. Прачытаўшы «біфштэкс», кліент паморшчыўся яшчэ болей. Прамовіўшы «свініна», ён застагнаў і ўзяўся за жывот. Тады Люся спачувальна падказала:

— Вам бліночкаў? Малочнага супу?

— О-о! — з палёгкай уздыхнуў грамадзянін і ўдзячна падняў вочы на афіцыянтку.

Але тая ўжо імчалася на кухню, успамінаючы аднаго свайго знаёмага, які з апетытам еў катлеты, баршчы, вінегрэты, ды часамі і не па адной порцыі. Ужо з тыдзень, як у сталовую на абед пачаў хадзіць гэты хлопец. Брацъ заказ прышлося Люсі. Яна звярнула на яго ўвагу і здзівілася.

Наогул яна здзіўлялася з усяго. Дзівілася, калі цёця Глаша прыносіла ў буфет вялікую рыбіну, дзівілася, калі ўвечары буфетчыца здавала ў касу кіпы грошай, дзівілася, калі на дварэ ішоў дождж. Яна і зараз, сутыкнуўшыся з такой ненатуральнасцю, прыбегла да буфета і здзіўлена шапнула:

— Ой, ён-жа раней катлету папрасіў, а потым боршч!

Сыны цёці Глашы, абедаючы, з'ядалі па кавалачку мяса з тушонай бульбай ці капустай, а ўжо потым, як яны казалі, «запівалі» супам ці баршчом. Таму гэта буфетчыцы здалося зусім натуральным, і яна сказала:

— Ну дык і што? Няхай сабе есць наздароўе!

Дзяўчына ўзрадавалася і пабегла на кухню па абед для хлопца.

З таго дня хлопец наведваў сталовую дзень у дзень і ў адну пару. Ён садзіўся ў кутку, заўсёды на адно і тое-ж месца. Яму было гадоў дваццаць. Твар ён меў бялявы, нос доўгі, вочы шэрыя, разумныя. Светлыя валасы ляжалі акуратна зачэсаныя назад, але калі ён нагінаўся над талеркай, рассыпаліся на бакі, утвараючы белы прабор. На хлопцу быў рабочы камбінезон з засохлымі плямамі ад вапны. Таму, відаць, і садзіўся ён далей ад людзей. Мабыць хацеў, каб не дакраналіся да белай сурвэты. Еў хлопец заўсёды па-свойму — спачатку другое. Часамі ён прасіў толькі суп і вінегрэт. Тады Люся заўважала, што ён разгортваў з паперы дамашні, па-вясковаму спечаны, хлеб і варанае мяса. Разгортваў ён не спяшаючыся, асцярожна. Аднаго разу ў яго не было дваццаці капеек. Хлопец нясмела працягнуў ёй рубель. Люся не ўзяла. На другі дзень хлопец падаў ёй дваццаць капеек. Падаючы, ён надта пачырванеў. Люся разгубілася і ўпусціла манету на падлогу. Яны абое нагнуліся яе падымаць і стукнуліся галовамі. Кліенты засмяяліся, а хлопец з дзяўчынай, засаромленыя, разышліся.

У сталоўцы стала за звычай: карміць хлопца кожны дзень Люся. І дзяўчына выпаўняла гэта старанна, з наіўным захапленнем. Калі хлопец заходзіў і садзіўся за стол, Міра абыякава, а Надзя з хваляваннем казалі сяброўцы:

— Ну, ідзі ўжо. Твой прышоў!

Карміць хлопца дзяўчыне станавілася цікавей. Калі ён садзіўся за столік, яна падымала ўсіх на ногі і ўсе прымалі ўдзел у яго кармленні. Повар, дзядзя Грыша, які правёў вайну на падножцы батальённага катла, наўмысля затрымліваў на кухні абед. Тады яна крычала на яго:



Аляксей КАРПЮК

# Афіцыянтка

Апавяданне

Мал. Ю. Пучынскага.

— Дзядзя Грыша, што вы, заснулі?

— Ага! — дражніўся той і яшчэ павольней наліваў у талеркі.

— Ну, хутчэй! — пакрыўджаная, тупала нагамі Люся. — Ён-жа там чакае, а вам — смешачкі!

Нарэшце повар аддаваў ёй талерку, паклаўшы туды больш мяса, чым у іншыя. Глаша з-за буфета паглядала ласкава. У надзіных вачах з'яўляліся адразу шчаслівыя іскрынкі. Толькі адна Міра пагардліва выпучвала губы ды, павёўшы плячыма, казала:

— Таксама мне знайшла! Тынкоўшчык нейкі, фі!

— Ну, і няхай сабе тынкоўшчык! А што ён, не чалавек? — баранілася Люся.

Аднойчы пасля такой размовы паміж дзяўчатамі на кухні Люся панесла ў залу талеркі, а Міра, падфарбаваўшыся, вышла да буфета пазіраваць афіцэрам, якія нядаўна ўвайшлі з двара. Вайскоўцы стараліся зачапіць Люсю, але тая нібы не прыкмячала іх. Тады яны звярнулі ўвагу на Міру.

Вайскоўцы доўга заставаліся ў сталовай. Яны пачалі запрашаць да стала дзяўчат. А якраз загадчык сталовай Нікіфар Фёдаравіч быў у адпачынку, яго падмяняла буфетчыца, а цёця Глаша была не строгая. Так што Міра крадком выпіла крыху каньяку, а адзін маёр пры гэтым сціснуў яе за локаць.

Назаўтра маёр прышоў адзін. Ён доўга сядзеў за сталом, курыў і пазіраў на Міру. Ад такіх залётаў той было няёмка перад сяброўкамі. Падмаляваўшыся, узбіўшы валасы, Міра стаяла ля буфета.

Разлічваючыся з маёрам, Міра наўмысля затрымала некалькі яго рублёў. Потым, калі ён пайшоў да выхаду, быццам спахапіўшыся, яна кінулася за ім на вуліцу аддаваць грошы.

У гэты вечар Міра з маёрам была ўжо ў кіно.

## 2

Аднойчы, як заўсёды, Люся чакала тынкоўшчыка, хвалявалася, а ўсе адчувалі гэта. Цёця Глаша паправіла каўнерык Люсі. Надзя адна завіхалася каля сталоў. Сама Люся бегала з люстэркам за шырмачку. У сталовую ўвайшла Міра. Яна пачала хваліцца падарункам ад маёра. Афіцыянткі прарвалі паперу і пачалі разглядаць матэрыял. Міра з гонарам паведаміла, што выходзіць замуж, што ў сталовай пабудзе толькі да вечара, а то наогул сталовая ёй усе нервы выматала. Люся надта здзівілася. А Надзя ўсміхнулася, прамармытаўшы, што, вядома, цяпер ёй не працаваць афіцыянткай. Толькі ў цёці Глашы быў адмоўны погляд. Яна прабурчэла.

— Ой, дзеўка, глядзі! У гэтага маёра, мабыць, ты не першая!

Паказаўся тынкоўшчык. Надзя накіравалася да кліентаў. Люсі трэба было ісці да свайго хлопца, але ёй чамусьці стала страшна. Яна разгубілася, адразу з афіцыянткі зрабілася бездапаможнай дзяўчынкай і прыліпла да буфета. Буфетчыца моцна бразнула нажом, якім сабіралася рэзаць хлеб, аж пераступіла з нагі на нагу.

Дзяўчына, падбегшы да хлопца, нахілілася над ім гэтак, што яе валасы дакрануліся да яго вуха.

Паабедаўшы, тынкоўшчык акуратна склаў адна на адну спачатку большыя, потым усё меншыя і меншыя талеркі, на іх паклаў вілку, лыжку, змёў са стала крошкі і доўга не выходзіў са сталовай. Надзя з Мірай стаялі каля печы, пакінуўшы Люсі ўсю залу. А яна яшчэ ніколі не насілася так па зале. З-за буфета свяціліся дабрадушныя вочы цёці Глашы.

## 3

Хлопец, які штодня прыходзіў у сталовую, працаваў мулярам. Ён прыехаў з аднае недалёкае вёскі, сын удавыМіроніхі.

Яшчэ хлапчуком, адбудоўваючы сваю хату, спаленую ў час вайны, міронішын сын сам склаў печ. Тады суседзі пачалі прасіць удаву, каб яна паслала сына скласці печы і ім. Гэтак з шаснаццаці год хлапчук прылаўчыўся да працы муляра. Потым ён пачаў працаваць у горадзе. Зараз міронішынаму сыну даручылі мураваць заводскі комін. Хлопец жыў у інтэрнаце будаўнічага трэста, абедаў у сталовай, а на нядзелю хадзіў дахаты.

Калі хлопец заўважыў у сталовай, што Люся адносіцца да яго з нейкай асаблівай увагай, у яго душы ўзнікла невыказнае пачуццё. На працы ён клаў кожную цагліну ў комін і ўвесь час бачыў перад сабою афіцыянтку са сталовай.

Сягоння, прышоўшы на будоўлю, ён быў, як кажуць, на сёмым небе. Дзяўчаты, якія падавалі яму раствор і цэглу, зараз адпачывалі, бо абедзенны перапынак яшчэ не скончыўся. Міронішын сын асцярожна абыйшоў тое месца, дзе, прытуліўшыся адна да адной, ляжалі работніцы, і палез на комін. Муравалася ўжо верхняя частка коміна і на ім пляцоўка для працы была такая малая, што там мог змясціцца толькі адзін чалавек. Забраўшыся на трыццаціметровую вышыню, хлопец сеў на свежы мур і пераможна глянуў навокал. Перад ім быў горад. Па вуліцах паўзлі, як жукі, у розныя бакі машыны. Дыміўся комін сталовай. Міронішын сын доўга не мог адарваць ад яго вачэй. Хлопцу здавалася, што там нехта махае яму шалем. Горад быў невялікі. За сталовай — яшчэ з дзесятак мураванак, якія нагадвалі сабой параскіданыя цагліны. За мураванкамі пачыналіся палі, узгоркі, лес. У далечыні ён разглядзеў сваю вёску. Хлопец уздыхнуў на поўныя грудзі, яму захацелася крыкнуць гэтак, каб заклубіліся ў небе хмары, загайдаліся ўдалі ўзгоркі, каб пачулі яго, нават, аж у вёсцы. Яму захацелася ўзняцца і паляцець. Да коміна набліжалася варона. Канцы яе крылляў свяціліся, як канцы сцёртага веніка, і пры ўзмахах іх даносіўся сіплы свіст паветра. Хлопцу стала зайздросна, што ён не можа лятаць хоць гэтак. Муляр схапіў камяк сухой вапны, крыкнуў і кінуў яго ў варону. Варона часцей залопала крыллямі, камяк разляцеўся ў паветры і градам пасыпаўся на дзяўчат. Унізе пачуўся крык, смех.

Прагудзеў гудок. Да краю коміна быў прымацаваны блок з вяроўкай. Ён пачаў круціцца, натужліва заскрыпела на ім вяроўка, гэта дзяўчаты знізу падавалі муляру вядро вапны. Міронішын сын адагнаў мары, паспрабаваў нагамі, ці моцна пад ім ляжаць дошкі, узяў кельму і прыступіў да працы. Але як толькі паклаў у мур першую цэглу, адразу-ж пагледзеў на сталоўку і далей клаў цэглу, ахоплены марамі. То яму здавалася, што ён з афіцыянткай ідзе ў сваёй вёсцы па лузе, дзе іскрыцца на сонцы ні то раса на травах, ні то крышталь са сталоўкі. То яму здалося, што яго комін знаходзіцца дзесьці сярод хмар, на ім стаіць толькі ён і прыгожая афіцыянтка. Гэты малюнак ён бачыў так выразна, што нават адчуваў цяпло яе подыху.

## 4

Аднаго дня, яшчэ задоўга да палудня, Люся рыхтавалася да сустрэчы са сваім тынкоўшчыкам. Яна хвалявалася. Яе ахапіла ніколі не адчуванае дагэтуль пачуццё, і адначасова ёй было чамусьці страшна.

У гэты дзень дзяўчыне з самага рання не пашанцавала. Спачатку яна разбіла цэлы паднос пасуды і расплакалася. Потым, забегшы за цёціну шырмачку з люстэркам, Люся аб жалеза, якім былі закаваны скрынкі, парвала панчоху. Стала шукаць іголкі і, як на бяду, яе ні ў каго не было. Нарэшце повар паклікаў дзяўчыну, зняў свой белы каўпак, дастаў з яго іголку і, даючы Люсі, сказаў:

— На. Яшчэ салдацкая. А другі раз каб сваю мела. Дзяўчына — і без іголкі!..

Нарэшце талерак жанчыны ўладзілі справу. Яны запэўнілі яе ў тым, што пасуда б'ецца абавязкова на шчасце! А цёця Глаша ад сябе дадала, што заступіцца перад Нікіфарам Фёдаравічам, каб ён гэтыя талеркі спісаў.

Ужо, здаецца, усё было добра. Надзя адна абслугоўвала залу. Люся чакала запаветнага моманту. Раптам дзяўчына ўявіла сабе, што ад плачу яна змянілася з твару. Люся пабегла да шафкі, у якой афіцыянткі пакідалі сваё адзенне. У гэтай шафцы Міра пакінула аб сабе ўспамін — пмаду. Люся ўзяла розныя алоўкі, баначкі і з імі пабегла за шырму.

Калі з падфарбаванымі вуснамі, шчокамі і брывямі Люся выйшла з-за шырмы, жанчыны ўсплеснулі рукамі: так ёй гэта было не да твару. Але дзяўчына нікога не хацела слухаць.

Увайшоў хлопец. Люся крыху пачакала, каб той усеўся, а потым выйшла ў залу. Хлопец глядзеў меню, потым ён падняў вочы, зірнуў на дзяўчыну, якая да яго падыходзіла і... спалохаўся. Ён замігаў вачыма, нават агледзеўся навокал, потым зноў накіраваў позірк на афіцыянтку.

Люся дагэтуль ніколі не фарбавала твар. Зараз ад фарбы яна не стуляла губ, і яны так і заставаліся ў яе адтапыранымі, нібы дзяўчына збіралася свістаць. На шчоках выднеліся плямы пудры. Адчуўшы сябе няёмка, дзяўчына ад разгубленасці ўставілася ў меню. З нафарбаванымі вуснамі яна не магла гаварыць. У такім смешным выглядзе Люся і стаяла перад хлопцам.

У сталоўцы абедала яшчэ некалькі рабочых, якія працавалі разам з міронішыным сынам. Адзін з іх, убачыўшы гэта, пырснуў ад смеху. Хлопец падумаў, што гэта зроблена назнарок і з яго насміхаюцца. Ён кашлянуў і, не паднімаючы вачэй, пачаў заказваць абед. Афіцыянтка стаяла і толькі ківала галавой.

Вярнуўшыся на кухню, дзяўчына забегла за шырму і расплакалася. Зараз яна плакала гэтак, што яе ніхто не мог суцешыць. А калі Надзя пачала дапытвацца, чаго яна плача, Люся падбегла да шафкі, схапіла сваё адзенне і ўцякла са сталоўкі.

У гэты дзень Люся больш не вярнулася, і Надзі адной прышлося карміць усіх кліентаў.

Дзяўчаты, якія ля коміна дапамагалі міронішынаму сыну, неяк даведаліся пра таямніцу свайго муляра. І калі ён прышоў змрочны са сталоўкі, яны пачалі смяяцца з яго. Хлопец палез на комін. Але дзяўчаты не пакінулі яго і там. Разуўшы сяброўку, якая спала, яны ў вядры ад вапны па блоку падалі яму наверх чаравікі з запіскай: «Падарунак ад афіцыянткі». Міронішын сын, праўда, адправіў чаравікі ўніз, натаптаўшы ў іх вапны. Аднак гэта яго не развесяліла.

Назаўтра муляр не пайшоў у гэтую сталоўку, а паабедаў у другой. Вяртаючыся з абеду, міронішын сын спаткаў... Люсю. Яна была апранута ў старэнькае паліто, абвязана цёплай хусткай, і ў такім адзенні хлопец яе ледзь пазнаў. Дзяўчына ішла з бабулькай, таксама захутанай у цёплую, такую, як і ў Люсі, хустку. Ён падумаў, што гэта люсіна маці.

Убачыўшы муляра, Люся скіравала ў завулак, пакінуўшы здзіўленую маці адну. Нічога не разумеючы, міронішын сын спыніўся, пастаяў і пайшоў на працу чамусьці ўжо ў лепшым настроі.

## 5

У сталовую паступіла на працу афіцыянткай новая дзяўчына — Каця. Каця нечым нагадвала Люсю. Ёй нават падышла люсіна вопратка. Дзяўчына была надта нясмелай з кліентамі і часта гублялася.

Люся на работу не прыходзіла, і цёця Глаша была незадаволена. Яна казала ўголас:

— От горкае дзіця! Дзе той Нікіфар Фёдаравіч? Хутчэй-бы вяртаўся ўжо з адпачынку ды камандаваў-бы тут!..

Буфетчыца паклікала да сябе Надзю, каб параіцца з ёй наконт таго, як вярнуць на працу Люсю. Надзя не магла нічога параіць і толькі пацінула плячыма.





сталоў, быццам і сапраўды ёй была ў гэтым патрэба. Апынуўшыся каля хлопца, яна спынілася і прамовіла:

— Дзень добры!..

— Дзень добры! — адказаў муляр.

Потым ён зняў шапку, пакамечыў, пакамечыў яе і зноў надзеў. Надзя, цёця Глаша, нават Каця былі цалкам заняты сустрэчай гэтай пары. Нават уваходзячыя кліенты здзіўлена спыняліся, не разумеючы, што тут адбываецца. Толькі хлопец з дзяўчынай не заўважалі гэтага. Яны разгубіліся, не знаходзілі слоў і не глядзелі адзін аднаму ў вочы. Цёця Глаша ўзяла нож, разрэзала бохан хлеба і прабурчэла:

— Ну, ідзіце сабе на вуліцу. Сёння нядзеля, там так хораша!..

Люся з мулярам пакорна пайшлі.

У акно відаць была вуліца. Надзя адхіліла фіранку, прыліпла да шыбы і пачала паведамляць усім, што там бачыць. Міра павярнула да яе галаву і прагна слухала. У вачах былой афіцыянткі заблішчэлі слёзы. Яе муж, карыстаючыся тым, што жонцы было не да яго, не зводзіў позірку з Каці. А Каця таксама хацела выглянуць на вуліцу, але яна баялася цёці Глашы. Таму, прытуліўшы да грудзей стос пустых талерак, дзяўчына крадком і сарамліва слухала, што казала Надзя.

А па вуліцы ішла маладая пара. Дзяўчына церабіла канцы цёплай хусткі. Хлопец крочыў побач і рукой кранаў сцяну, быццам упэўнёўся, ці яна моцная. Толькі па тым, як асцярожна яны ступалі адзін ля другога, можна было зразумець, што Люсю не цікавіць хустка, а хлопца сцяна. Надзя за імі сачыла, пакуль яны не зніклі сярод па-святочнаму апранутых людзей.

Калі аднойчы ў сталовую нясмела ўвайшоў муляр і пачаў асцярожна азірацца, цёця Глаша паклікала яго і бесцырымонна і сурова сказала:

— Ты што гэта надумаўся нашых дзяўчат крыўдзіць? Яна-ж, бедная, з-за цябе нават не прыходзіць у сталоўку каторы дзень.

Міронішын сын вінавата сціснуўся ўвесь і, нічога не разумеючы, нешта прамармытаў. Цёця Глаша збавіла крыху строгасці і тонам, які не дапускаў ніякіх пярэчанняў, дадала:

— Заўтра на абед мы яе вернем. Толькі, глядзі-ж, прыдзі! — і буфетчыца невядома за што пагразіла хлопцу, а пасля спакойнымі рухамі пачала рэзаць каўбасу, даючы зразумець, што размова скончана.

Хлопец адкрыў рот, хацеў пра нешта запытацца, потым перадумаў і выбег са сталоўкі.

— Дык хай-бы паабедаў хоць! — пашкадавала Надзя, калі за ім зачыніліся дзверы.

— Нічога, не памрэ! А ты каб мне заўтра прывяла яе! — строга загадала буфетчыца.

У гэты вечар Надзя знайшла кватэру Люсі. Дзяўчына адмаўлялася прыйсці на працу.

Але назаўтра, перад самым абедзенным часам, яна ўсё-такі забегла ў сталовую. Люся ўвайшла нясмела і села на ражок крэсла. А праз хвіліну бегала па зале і здзіўлялася:

— Ой, як расцвіў вазон! Якія талеркі вы купілі! А чаму сталы так стаяць? Ну, нічога, заўтра пастаўлю, як і былі!..

— Хто цябе прыме назад яшчэ! — напалохала Люсю буфетчыца.

Дзяўчына вінавата прыціхла, але не надоўга. Цёця Глаша дала ёй памераць мірыну кофтачку.

Яна ўсё не распраналася, бо перад прыходам муляра хацела пайсці дадому. Аднак потым вырашыла, што калі ўвойдзе хлопец, дык яна схаваецца за шырму. А пасля вырашыла, што наогул нікуды не будзе хавацца.

У сталовую ўвайшла са сваім мужам Міра. На вайскоўцу быў шынель без пагонаў, а на ёй — раскошная даха, хоць яшчэ было і не так холадна. У руках Міра трымала вялікую, як чамадан, жоўтую сумку. Каця паглядзела на кліентаў шырока адкрытымі вачыма і застыла ў здзіўленні.

— Ой, якое кепскае надвор'е, цяплынь!.. — сказала Міра, сядаючы за стол і, як веерам, абмахваючыся далонню. — Мы заўсёды ходзім у рэстаран. А сёння няма часу, надта спяшаемся і вырашылі паабедаць у вас!..

Пакуль гэта гаварыла Міра, яе муж не зводзіў вачэй з Каці. А калі дзяўчына падышла да іх браць заказ, былы маёр пачаў усміхацца маладзенькай афіцыянтцы. Цёця Глаша заўважыла, як Міра, крадком азірнуўшыся, штурхнула мужа ў бок. Буфетчыца заўважыла сабе:

— Э-эх, маёрша, ці-ж я не казала табе? Нарвалася!..

Была якраз нядзеля. На муляру, калі ён нарэшце прышоў, быў не камбінезон, а цёмны цывільны касцюм. У сталоўку ён увайшоў, як і мінулы раз, нерашуча. Надзя хацела паклікаць Люсю, якая была на кухні. Аднак буфетчыца ўмомант зразумела яе і сурова шапнула:

— Не лезь, не перашкаджай!..

Люся, крадком выглянуўшы з кухні, апусціўшы вочы, пайшла да

# МУЗЫЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА Ў КАЛГАСЕ

Упершыню бачаць дзеці вёскі Сеніцы такую марозную заснежаную зіму.

Скончыліся ўрокі. Можна ўзяць лыжы і пабегчы далёка-далёка па прасторных палях роднага калгаса, можна сесці на санкі і праімчацца ўніз да рэчкі...

Але сёння дзеці чамусьці адразу пасля апошняга званка спяшаюцца дадому. Вы думаеце, яны спалохаліся марозу? — Не! Пачакайце якіх з поўгадзіны, і вы ўбачыце, як вучні па два, па тры, невялічкімі групамі, сур'ёзныя і заклапочаныя, накіроўваюцца да новай хаты, што стаіць каля прыгорку. У хлопчыкаў і дзяўчынак у руках кніжкі, не падобныя да звычайных падручнікаў.



Музычная школа ў калгасе імя Гастэлы. На занятках па класу фартэпіяна. Настаўніца музыкі В. Дзмітрыева сочыць за практыкаваннем на піяніна дачкі калгасніка Н. Шумскай.

Фото В. Марцыёнка.

Пойдзем і мы за імі. Зайшоўшы ў пярэдні пакой, вы пачуеце гукі фартэпіяна і голас дзяўчынкі, якая старанна паўтарае ў такт музыцы: «І раз, і два, і тры, і чатыры...»

— Ірачка, раўней сядзі і не трэба дапамагаць сабе локцем. Вальней, вальней трымайся, — супакойвае юную музыкантку настаўніца па класу фартэпіяна Віола Мікалаеўна.

І вось мы выразна чуем простую, сакавітую мелодыю рускай народнай песні «Эх вы, сени мои, сени...»

Задумліва глядзіць на дзяўчынку і настаўніцу з рэпінскага партрэта Стасаў. Ён нібыта прыслухоўваецца да мелодыі і, здаецца, хоча сказаць: «Добра!»

Ці думаў вялікі музыказнаўца, што праз некалькі дзесяткаў год так расквітнее культура яго радзімы, што дзеці сялян будуць вучыцца ў спецыяльных музычных установах, створаных для іх клапатлівай маці-Радзімай.

З верасня мінулага года ў калгасе імя Гастэлы працуе філіял Мінскага музычнага вучылішча імя Ларысы Пампеевуны Александроўскай. Дзеці хлебаробаў і вясковай інтэлігенцыі вывучаюць тут нотную грамату, вучацца іграць на баяне, скрыпцы і фартэпіяна.

Многія з іх дабіліся ўжо значных поспехаў. Ірына Лебедзева скончыла праграму першага года навучання і займаецца цяпер па праграме другога года. У дзяўчынкі добры слых, тонкае пачуццё рытма і мелодыі і, самае галоўнае, — вялікая любоў да музыкі. Нядрэнныя вынікі першага поўгоддзя і ў скрыпача Аліка Матусевіча, баяніста Колі Шумскага і ў другіх рэбят.

Шчаслівыя савецкія дзеці, дзякуючы клопатам нашай дзяржавы і Комуністычнай партыі, маюць усе ўмовы для таго, каб вырасці культурнымі, усебакова развітымі будаўнікамі комуністычнага грамадства.

Г. КОЛАС.

I. НАУМЕНКА

# КРОК ЗА КРОКАМ

Няўдачы Соні Шумскай пачаліся з вышэйшай матэматыкі. Прышла яна з экзамена заплаканай і кінулася, не распранаючыся, на ложак.

— Двойка, — безапеляцыйна сказала Валя Ільюшэнка. — На інтэграванні, мусіць, села...

Дзяўчаты, якія перад гэтым ажыўлена абмяркоўвалі экзамен, прыціхлі. Ніхто не спадзяваўся, што Соня праваліць. На лекцыі хадзіла, як і ўсе, заняткаў не прапускала, на семінарах усё ішло, быццам, гладка...

— Можа, дазволяць пераздаць? — выказала думку Маша Ермакова. — Соня падцягнецца...

— Не так ужо лёгка Кіту Андрэевічу і пераздаць, — сказала адна са старшакурсніц, якая зайшла ў пакой. — Пахадзіць прыдзецца...

Дацэнту Кіту Андрэевічу Зарубіну, выкладчыку матэматыкі, тады парадкам «папала» ад насельнікаў трыццаць трэцяга пакоя. Залішне ўжо ён строгі.

Але калі разабраліся ў справе глыбей, высветлілі, што Шумская была не такая ўжо моцная ў інтэграванні. Выходзіла, што Кіт Андрэевіч кругом праў.

— Галоўнае, не даць Соні ўпасці духам, — сказала Ірына Апарына. — Каб яна не згубіла веру ў свае сілы. Без веры і ўпэўненасці ў поспех не толькі вучыцца, а і жыць нельга...

Гэтая размова была даўно, яшчэ тады, калі дзяўчаты з трыццаць трэцяга пакоя былі першакурсніцамі. Шмат чаго новага адбылося ў іх жыцці з таго часу. За плячыма два гады вучобы. У заліковай кніжцы дзесяткі адзнак. І кожная адзнака хавае ў сабе кавалачак жыцця, з кожнай звязана многа ўспамінаў і хваляванняў.

Вось Валя Ільюшэнка, высокая, чарнявая, з хуткімі парывістымі рухамі. На курсе яе лічаць энергічнай, баявой. І не без падстаў. Мала хто так, як Валя, выступіць з дакладам на дыспуце. Умее Валя і пакрытыкаваць, сказаць праўду ў вочы таму, хто гэтага заслугоўвае. Добра вучыцца, аўтарытэтная. Хіба-ж можна было падабраць лепшую кандыдатуру ў факультэцкае камсамольскае бюро, даручыць палітмасавую работу!

У Алі Верамейчык, з таго-ж трыццаць трэцяга пакоя, ужо крыху іншыя якасці. З першага дня паступлення ў інстытут вызначалася яна строгасцю, акуратнасцю, патрабавальнасцю. Нельга сказаць, каб гэтых якасцей нехапала яе сяброўкам, але ў Алі яны, як кажуць, былі на віду. У каго, як не ў Алі Верамейчык, заўсёды дастанеш канспект па любому прадмету. Нездарма Аля Верамейчык з'яўляецца старастам.

Калі гаварыць пра Ірыну Апарыну, то патрэбна мець на ўвазе ўжо нешта іншае. Трэба ўспомніць суботнікі, калі студэнты дапамагалі пракладваць цеплацэнтраль. Гэтыя суботнікі нават нельга ўявіць без Ірыны Апарынай. Бывала, стаіць які-небудзь хлопец, прыставіўшы рыдлёўку да сцяны, і смаліць цыгарку за цыгаркай. Перапынак, моў, спяшацца няма куды. Ірына не паглядзіць, што ён на два курсы вышэй за яе, адчытае як след! За гэта і любілі Апарыну, называлі брыгадзірам. Ірына-ж умее ўгаварыць самых незгаворчывых — ёсць у дзяўчыны, што называецца, арганізатарская іскарка. І калі на паседжанні толькі што абранага камсамольскага бюро вучотна-фінансавага факультэта паўстала пытанне, каму-ж быць сакратаром, усе галовы павярнуліся да Ірыны Апарынай. І вось яна ўзначальвае камсамольскую арганізацыю, дзе 250 камсамольцаў і 11 групавых арганізацый. Як ты будзеш сябе трымаць, калі ты такі-ж студэнт, як і гэтыя юнакі і дзяўчаты, калі разам з імі ходзіш на заняткі і — што грэх таіць! — не вельмі ўжо смела стаіш перад дзвярыма аўдыторыі, дзе ідзе чарговы экзамен! Па-першае, табе нельга атрымаць тройку. Які-ж ты сакратар факультэцкага бюро і як ты будзеш падцягваць другіх, калі сам вучышся на тройкі? Табе нельга прапусціць ні адной лекцыі, нельга прыйсці непадрыхтаванай на семінар. Ірыне Апарынай усё гэта было ясна з самага пачатку. Яна ведала: не мець троек і не прапускаць заняткаў — гэта залежыць толькі ад яе самой. Але ёсць вельмі многа спраў, якія непасрэдна ад яе адной не залежаць. Трэба, каб добра вучыліся ўсе 250 камсамольцаў факультэта, каб яны чыталі газеты, былі ў цэнтры палітычнага і культурнага жыцця, каб рыхтавалі з сябе дзейсных грамадскіх людзей, будучых кваліфікаваных спецыялістаў народнай гаспадаркі. Як усяго гэтага дасягнуць?!

Аднойчы студэнты ішлі са спектакля «Яе сябры». Сыпаў дробны сняжок, дзяўчаты маўчалі пад уражаннем спектакля. Лёс сляпой дзяўчынкі, якую не пакінула і зноў узняла да жыцця школьная сям'я, усхваляваў Ірыну Апарыну. Так бывае ў жыцці. Але часам бывае вельмі цяжка дамагчыся нават невялікага поспеху. Вось тая-ж самая Соня Шумская. Трэці год вучыцца яна разам з імі ўсімі, але-ж няма ні ў кога пакуль цвёрдай упэўненасці, што Соня не праваліць чарговага экзамена. У Соні слабая школьная падрыхтоўка. І не выправіш такой справы нават за цэлы год, хоць абмяркоўвай яе на дзесяці сходах.

— А Соню нам, дзяўчаткі, падцягнуць трэба, — сказала Ірына Апарына. — Трэці год разам жывем, аж сорамна неяк...

Тады загаварылі ўсе разам. Соня добрая дзяўчына, і ёсць пэўныя зрухі ў яе вучобе. І тут вырашылі: займацца з Соняй будуць дзяўчаты разам, разам будуць хадзіць і на экзамены.

...І вось зімовая сесія на трэцім курсе. Самы цяжкі экзамен — па статыстыцы. На факультэце гавораць: калі статыстыку здасі, значыць, інстытут закончыш. Статыстыкі, уласна кажучы, дзве — тэарэтычная, якую чытае Аляксандр Рыгоравіч Казачонак, і эканамічная, прадмет Інакенція Пятровіча Старнова. Той, хто разбіраецца ў названых прадметах, зможа разабрацца ў фінансавай, матэрыяльнай і вучотнай гаспадарцы самага буйнага прадпрыемства, калгаса. Пад дзвярыма кабінета, дзе ішлі экзамены, стаяў увесь курс. Ірына Апарына хвалявалася больш, чым перад усякім іншым экзаменам. І не толькі за сябе. Адной з першых перад экзаменатарам села Соня Шумская. Побач з ёй Юля Сысоева, Ніна Ведунова, — яны разам займаліся. У трохі прыадчыненыя дзверы чутны голас Соні — яна пачала адказваць. Крыху замялася... Стары малюнак! Нешта сказаў выкладчык, і Соня зноў адказвае. Нешта новае чуваць у яе голасе... Хвілін праз пятнаццаць Шумская выходзіць з аудыторыі, ёй выкладчык задаў толькі адно дадатковае пытанне. Чацвёрка...

Перамога прыносіць радасць.

Соня Шумская адставала таму, што ў яе была слабая школьная падрыхтоўка. У Люды Крэс падрыхтоўка не слабая, дзяўчына яна, безумоўна, здольная. А статыстыку правaліла. І на гэты раз прышлося пераздаваць. Чаму? Гэтае пытанне не раз стаяла ў парадку дня і комсамольскіх сходаў, і паседжанняў бюро. Гаварылі шмат пра што. Уся група, напрыклад, выпісала газеты, а Люда не выпісала! Затое ў яе прычоска па самай апошняй модзе. Прапускае семінары, але не праміне ніводнай прэм'еры. А бацька — заслужаны чалавек. Нядаўна яго ордэнам узнагародзілі. Хадзілі да бацькоў, пісалі не раз у насценгазеце. Але вынікаў прыкметных пакуль няма.

Якою меркаю вымераць работу сакратара комсамольскага бюро, ступень яе паспяховасці? Можна дабіцца рэгулярнага правядзення факультэцкіх і групавых комсамольскіх сходаў, своечасовай уплаты комсамольскіх узносаў. Але гэта яшчэ далёка не поўны поспех работы. Галоўнае, каб гэтыя мерапрыемствы давалі вынікі, і ў першую чаргу — добрую вучобу. На рахунку комсамольскай арганізацыі вучотна-фінансавага факультэта сякія-такія поспехі ёсць.

У гэтую зімовую сесію група

У адным з вучэбных кабінетаў Інстытута народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышэва; за першым сталом справа — Ірына Апарына.



Мікола АУРАМЧЫК

# Землякі

Урыўкі з паэмы

Свабодны ад студэнцкіх спраў,
Сярод сяброў вясёлых,
Васіль штодзённа ўспамінаў
Дзяўчыну з Навасёлак.
І што ні дзень — то ўсё часцей
Ён вольнаю часінай
З крылатай мараю
Ляцеў
У родныя мясціны.

Там, на кватэры ў Юркаўцоў,
Яго чакала Каця,
Што мела ўладу над хлапцом
Мацнейшую, чым маці.

Аб чым з ёй марыў мой дружбак,
Дык толькі ім вядома...

Праз год павінен быў юнак
Вярнуцца аграномам.

Але раптоўна
На зямлі
Вайны пярун ударыў,
Маланкай крылы абпаліў
Юнацкай светлай мары.

Аж тры гады ніхто не знаў
Аб васілёвым лёсе...
За гэты час ён пабываў
Салдатам і матросам.

Які прайшоў ён з боем шлях,
Суседзі не пыталі:
Аб гэтым шляху на грудзях
Расказвалі медалі.

З ягонай правае рукі
Гадам ужо не сцерці
След моцных поціскаў людскіх
Тых заняволеных,
Якіх
Ён ратаваў ад смерці.

Нікалі гэтулькі дзяўчат
Не абнялі нікога,
Як абнялі цябе, салдат,
На франтавых дарогах,
Дзе вызваляў ты іх з-за крат,
З канцлагераў, з астрогаў.

Васіль пабачыў шмат краін
Пасля цяжкога бою...
Ніякіх скарбаў на ўспамін
Адтуль не ўзяў з сабою.
Хоць, як вядомы між салдат
Аматар фотасправы,
Трафейны фотаапарат
Ён мог-бы ўзяць па праву.

Не муліў хлопцавай спіны
Зусім парожні клунак...
Затое нёс юнак з вайны
Найлепшы падарунак.

Здабыў яго за доўгі час
На франтавых дарогах...

Прынёс ён на сваіх плячах
І мір і перамогу.

Абмыты ветрам і дажджом,
Хлапец вясновым ранкам
З'явіўся не ў бацькоўскі дом,
А ў змрочную зямлянку.

Глядзеў ён на сяло ў акно:
Усё знішчана дазвання...
Даведаўся, што ён даўно
Спазніўся на спатканне.

Але ён верыў, што зіму
Сустрэне ў новай хаце,
Што будзе суджана яму
Яшчэ спаткацца з Кацяй.
Бо над зямлёю хоць і змоўк
Страшэнны гул гарматаў,
Ды покуль што з вайны дамоў
Прышлі не ўсе салдаты.

Штодня вясна ў сяло нясе
Мацнейшы спеў птушыны...
Яшчэ і птушкі не ўсе
Вярнуліся з чужыны.
Дык можа прыдзе і яна,
Мо' позніцца ў дарозе?..

Квітнела краскамі вясна
На радасць перамозе.

А людзі, сонца і зямля
Былі ёй гэтак рады!..

Даўно чакала Васіля
Вакантная пасада.
Матрос не з морам, а з зямлёй
Здружыўся ў час вясенні.
І стаў не ў флоце старшыной,
А ў Навасёлках старшынёй, —
Пайшоў на павышэнне.



Васілю прыгадаўся зноў
Той малюнак, што бачыў тут,
Як вярнуўся з вайны дамоў
Ён у гэты бацькоўскі кут.

Навасёлкі ў сэрцы пранёс,
А вярнуўшыся ў іх пасля,
Адчуваў сябе, як матрос
Ля разбітага карабля.

Затапілі ўсё палыны,
Над сівой паверхняй якіх
Адзінокія каміны
Выглядалі, як маякі.
Ды ўздымаліся дзе-ні-дзе
Над зямлянкамі курганы,
Усёроўна як на вадзе
Перавернутыя чаўны.

На пажарышчы-астраўкі,
Дзе расла адна лебяда,
Іх закінуў не шторм марскі,
А людское гора, бяда.

Аднаўленне як пачалі,
Дык, нібы на верфі малой,
Дзе будуюцца караблі,
У сяле запахла смалой.

Акіян жытоў,
Дзе арцель,
Хвалі гнаў і шумеў, як бор...

Быццам флагманскі карабель,
Школа выплыла на прастор.

І адзін за адным, у рад,
Быццам-бы караблі,
За ёй
Пачалі выраўніваць строй
Зрубы новых калгасных хат.

А цяпер як глянеш — відны
Навасёлкі з лаўскіх палёў...
Не сялом здаюцца яны,
А эскадраю караблёў.
Хоць на ім не флоцкі мундзір,
Ён сябе ў арцелі сваёй
Адчувае як камандзір
Баявой эскадры марской.

Вось яны, гатовыя ў бой,
Перад ім стаяць караблі,
Што, як мачты, па-над сабой
Радыёантэны ўзнялі.

Падарункі свае да свят
Ім прывезлі студэнты іх:
Радыёпрыёмнікаў шмат
Змайстравалі ў гуртках сваіх.

Познім вечарам да начы
І ў яго прыёмнік гучыць.
Заціхае курантаў звон,
А навушнікі з галавы
Не здымае падоўгу ён,
Ловіць голас роднай Масквы.

Сон адольвае спакваля,
Іншы раз здаецца тады
(Быццам-бы ў якім забыцці),
Што, нібы са штаба,
З Крэмля
Загадаюць яму, куды
Са сваёй эскадрай плысці.

---

бухгалтараў трэцяга курса, напрыклад, мела толькі адну тройку. Тут — пяць круглых выдатнікаў. Але самага лепшага поспеху дамогся другі курс статыстыкаў, дзе комсоргам Лена Забаўская. Прыемна, што ў ліку выдатнікаў — актыў комсамольскай арганізацыі. Лена Забаўская вучыцца толькі на выдатна. Зоя Макеева, Ірына Надольская — таксама.

Сёлета комсамольскае бюро факультэта для палепшання вучобы практыкавала некаторыя новыя мерапрыемствы. На студэнтаў першага курса статыстыкі скардзіліся выкладчыкі: няўважліва слухаюць, слаба рыхтуюцца да заняткаў. Вырашылі сабраць разам першакурснікаў і статыстыкаў другога курса, тых, што па паспяховасці занялі першае месца. Баяліся, праўда, што шчырай размовы можа не атрымацца. Першакурснікі маглі сказаць: падумаеш, знайшліся настаўнікі, на год раней у інстытут паступілі! Але трывога аказалася дарэмнай. Студэнты другога курса не хваліліся, а проста расказалі, як яны рыхтуюцца да экзаменаў. Размова прынесла карысць.

Увогуле факультэт у вучобе пайшоў угору.

Вучоба стаіць у цэнтры ўвагі комсамольскага бюро. Але ёсць і многа іншых спраў. Дыспуты, культпаходы ў тэатр і кіно, мастацкая самадзейнасць. За культурна-масавыя мерапрыемствы адказвае Таня Шэўчэнка. Прад'явіць прэтэнзіі ёй нельга. Абмяркоўвалі на факультэце «Студэнтаў» Ю. Трыфанава, «Да новага берага» В. Лацiса. Многа было добрых, шчырых выступленняў, заўваг аб праўдзівасці таго ці іншага вобраза. Ходзяць студэнты ў кіно і ў тэатры групамі і нават курсамі. Выступалі перад студэнтамі вядомыя пісьменнікі і артысты, сустракаўся з будучымі статыстыкамі, бухгалтарамі, эканамістамі былы студэнт інстытута народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышэва, а зараз міністр фінансаў рэспублікі таварыш Коханаў. Работы комсамольскаму бюро хапае, — трэба-ж арганізаваць усе гэтыя мерапрыемствы!

І вось зараз у калідорах вясёлая гамонка, смех, а ў пакоі комсамольскага бюро пасяджэнне. Сакратар комсамольскага бюро інстытута Аляшкевіч гаворыць аб выбарах у Вярхоўны Савет СССР. Комсамольцы вучотна-фінансавага факультэта заўтра на лыжах пойдуць у падшэфны калгас імя Гастэлы, дапамогуць калгасным комсамольцам наладзіць работу. Калону ўзначаліць Ірына Апарына. Гэта заўтра. А сёння Ірына Апарына хоча пагаварыць яшчэ пра факультэцкую насценгазету. Штосьці занялала яна, стала залішне афіцыйнай, нецікавай. Трэба ўвесці ў рэдкалегію тых студэнтаў, якія пішуць вершы, апавяданні, байкі, адным словам, літаратараў.

Доўга будзе яшчэ гарэць у пакойчыку бюро святло, а юнакі і дзяўчаты будуць меркаваць, аб тым, каб яшчэ лепш здаваліся экзамены і залікі, каб вечарамі звінелі смех і песні, каб будучыя спецыялісты фінансавай справы яшчэ сур'ёзней рыхтаваліся ў вялікую дарогу — да самастойнай работы.

## Вядомы дзіцячы пісьменнік

Не так даўно грамадскасць рэспублікі адзначала 50-годдзе з дня нараджэння і 30-годдзе літаратурнай дзейнасці вядомага дзіцячага пісьменніка Алеся Якімовіча.

Алесь Якімовіч нарадзіўся ў студзені 1904 года ў вёсцы Чурылава Уздзенскага раёна на Міншчыне. З малых год ён пайшоў на грамадскую работу, на вучобу і



неўзабаве стаў працаваць у літаратуры, прысвячаючы ўсё для піянераў і юнацтва. Яго першы зборнік апавяданняў для дзяцей «Гул бубна» выдадзены ў 1925 годзе. Пісьменнікам напісана шмат твораў, вядомых не толькі нашаму юнаму чытачу, але і старэйшым. Хто не ведае цікавай казкі «Каваль Вярнідуб» аб асілку-змагару? Дзеці яе любяць і перачытваюць, таксама як і кнігі «Незвычайны мядзведзь», «Перамога», «Гаворыць Масква», «Я — юны піянер».

Алесь Якімовіч у сваіх аповесцях і апавяданнях намаляваў вобразы юных ленінцаў, нашчадкаў і прадаўжальнікаў вялікай справы, пачатай іх бацькамі.

Ленінскі комсамол, як старэйшы сябра піянераў, заўсёды прысутнічае ў творах пісьменніка і крочыць наперадзе нашых юнакоў і дзетвары. Алесь Якімовіч — пісьменнік-педагог — напісаў цікавыя творы аб нашай школе, якія маюць вялікае выхаваўчае значэнне. Ім выдадзена больш за 15 кніг аповесцей, апавяданняў і казак.

Пісьменнік таксама плённа папрацаваў у галіне перакладу з рускай літаратуры. Алесем Якімовічам перакладзены на родную мову творы класікаў рускай літаратуры А. Пушкіна, І. Крылова, І. Тургенева, А. Чэхава, М. Горкага і творы савецкіх пісьменнікаў В. Маякоўскага, А. Гайдара, С. Маршака, С. Міхалкова.

У дні юбілея Алесь Якімовіч сказаў, што і надалей ён прыкладзе ўсе свае сілы ў справе выхавання маладога пакалення, пакалення будаўнікоў комуністычнага грамадства.

Пажадаем таленавітаму пісьменніку доўгіх год жыцця і спаўнення новых творчых замыслаў на карысць нашай любімай соцыялістычнай Радзімы.




# ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

**Элен ПАРМЕЛЭН**

**Апавяданне**

Мал. І. Давідовіча.

Уся бяда ў тым, што яны закаханыя! А ў такіх справах, як гэта кажуць, не загадаеш... І на шчасце! Бо калі-б вырашальнае слова належала тут галаве і трэба было чакаць адпаведных умоў, калі будзе кватэра з вадой, газам, электрычнасцю, — словам, усе ўмовы, якія дыктуюцца розумам, то ва ўсіх мэрыях шлюбы адбываліся-б толькі паміж багацеямі.

Эх, каханне! Эх, маладосць! О, цнатлівасць! Карыстайцеся, кажуць, іх дабром пакуль яны вам дадзены! Людзі, аб якіх ідзе размова, нічога больш і не жадалі, як толькі пакаштаваць гэтага шчасця. Але як гэта зрабіць? Вось у чым пытанне! Той, які займаў першы паверх, — хоць пажылы ўзростам, але ўладальнік мільярдаў і маладзенькай красуні, з ног да галавы апранутай шаўкамі і нейлонам, якую ён возіць у доўгай, як дыпладок *, машыне, — любіць прапаведваць: «З любым рай і ў будане!» Але, ці ведаеце, нават каб наняць куток у будане, таксама спатрэбяцца сякія-такія грошы. Карацей кажучы...

Дом, у якім пражываў дыпладок і дзе жыла і Жульета, меў раскошны вестыбюль — проста любата! А вуліца была такая чыстая, што можна было есці зусім на зямлі. Вечарам, вяртаючыся дадому з магазіна «Танныя рэшткі тканіны», дзе Жульета дзень у дзень прадавала адрэзы матэрыі, яна спачатку велічна ішла па дыване даўжынёю з дзесяць метраў, затым збочвала направа, дзе дыван змяняўся дарожкай з тарцоў ідэальнай васьмівугольнай формы, упрыгожаных белымі пліткамі. Потым яна адчыняла дзверы з матавым шклом, якія за ёй ціхенька зачыняла спружына.

Прайшоўшы двор, Жульета адчыняла другія дзверы, на гэты раз без шкла і без спружыны.

Узняўшыся на восьмы паверх, Жульета, нарэшце, трапляла ў доўгі-доўгі калідор з паркетнай, але ненацёртай падлогай, у якім было дзесяць дзвярэй і ў канцы якога на балконіку сохла бялізна. Яна адчыняла адны з гэтых дзвярэй, і яе сустракалі разам чатыры прывітанні. Адно з іх ішло ад бабулькі, якая ляжала справа. Другое — ад брацішкі, што спаў пасярэдзіне. Яшчэ два прывітанні даносіліся з левага кутка, дзе спалі бацька з маткаю. Жульета звычайна размяшчалася там, дзе можна было ўціснуць яе раскладны ложак з ножкамі на роліках.

Ніхто не назваў-бы дакладна дзень, калі Жульета вырашыла сыйсціся законным шлюбам з маладым электратэхнікам, якога адразу-ж празвалі Рамео. «Вось і добра, нам будзе прасторней». А ўголас прагаварылі: «Божа мой, дзеткі, дзе-ж вы жыць будзеце?!»

Што да Рамео, то ён разам з двума хлопцамі жыў у маленькай каморцы. Каморка на два ложкі з туалетам на дварэ і з вадой на лесвічнай пляцоўцы. Сапраўдная клетка, дзе кожны вечар трэба было праяўляць цуды упаковачнага мастацтва, каб утраіх улегчыся спаць. Каморка з дзвярыма, якія называлі шчылінай, — да таго вузкі быў іх праём. Столь называлі дахам, бо яна вісела так нізка, што Рамео, які ростам быў з каланчу, даводзілася згінацца, каб прайсці па пакоі.

У адну цудоўную суботнюю раніцу ў святочным плацці, з палымнеючымі шчокамі Жульета з'явілася пасярод гэтае клеткі і адразу-ж выпаліла суджаныя словы: «Рамео, я знайшла кватэру. Трэба быць там у 11 гадзін».

Спатрэбілася нямала часу, пакуль усе прышлі ў сябе ад нечаканасці. Пасля гэтага Жульеце далі сесці, і яна расказала наступнае:

— Адзін пакой. Але затое вялікі, з двума вокнамі. Вокны, праўда, глядзяць на двор, але якое гэта мае значэнне? Потым двор, здаецца, вялікі і досыць чысты. Пакой, магчыма, трэба будзе пафарбаваць, але якое гэта мае значэнне? Выгоды няма, трэба хадзіць на пляцоўку. Але дзверы зусім побач. І потым, хто думае пра такія дробязі ў нашым становішчы... А кухня добрая і як быццам вялікая. Раён цудоўны — трынаццаты, побач сквер. І пры ўсім гэтым танна...

Для Рамео гэта навіна была, як гром сярод яснага неба. Ён не мог вымавіць слова, не мог апамятацца. Але ўжо адчуваў сябе, што здымае кватэру.

— Адзін пакой, — сказаў ён нарэшце, — гэта не так ужо многа.

— Ну, вось яшчэ! — горача кінула Жульета. — Гэта занадта! Табе можа падаць катэдж з асобнай лесвіцай для прыслугі?

Спрачаючыся так да вызначанага часу, яны, нарэшце, выбраліся. Вось і вуліца. Зайшлі ў метро, якое нагадвала смаўжа. Зноў вуліца. Дзверы. Іх дзверы. Нашы дзверы. Якія чароўныя дзверы!

— Вам мадам Шоз? Пяты налева, левыя дзверы, — сказала кансьержка.

Яны перабеглі лесвіцу і супыніліся на пляцоўцы, каб перавесці дыханне.

— Я страшэнна баюся, што нічога не атрымаецца, — сказала Жульета. — Паслухай, за колькі часу да вяселля трэба апублікаваць у газеце аб'яву?.. Пачакай, папраў свой гальштук, вось так. Яшчэ хвілiначку, я папраўлю валасы. Нішто сабе? Я не залішне падмалявана? Плацце маё не да твару... Добра будзе? Ну, што-ж, пачакай! Пацалуй мяне. Не, не звані, адну хвілiначку. Ты не ўяўляеш, як б'ецца маё сэрца. Ну, звані. Звані, чаго ты стаіш?

Дзын. Ціша. Дзын... Зноў нікога. Дзын. Дзын. Дзын. Крокі. Ах!.. Ну, цяпер глядзі пільна!

— Хто там? — запыталіся за дзвярыма.

— Гэта... Наконт кватэры.

— А... А вас хто накіраваў?

— Мадам Жыну, якая знаёма з адным з вашых сяброў. Нам сказалі...

— Заходзьце!

Яны зайшлі ў пярэдні пакой велічынёю каля двух квадратных метраў. Звычайны пярэдні пакой. Вельмі цёмны, але не трэба залішне прыдзірацца. Дама невысокага росту, уся ў чорным, з агатавай брошкай на карсажы, зусім прыемным голасам сказала:

— Гэта для вас?

— Ага, мадам. Мы збіраемся... пажаніцца.

— О! Я бачу. Ну што-ж, тут вельмі люба. Спакойна. Вада, газ, электрычнасць. Пакой вольны. Павінна вам сказаць, што ёсць ужо трое жадаючых, акрамя вас. Але калі вы згодны...

— Мы згодны! Мы згодны! — сказала Жульета.

Рамео ўшчыпнуў яе за руку.

— Гэта нават дзіўна, — сказала дама, — што пакой да гэтай пары не наняты. Я, бачыце, збіраюся пераехаць у вёску. Так патрабуе маё здароўе. Калі вы згодны, я буду вельмі рада. Пры здачы пакоя я аддаю перавагу такім прыстойным маладым людзям, як вы. Гэты жыллёвы крызіс абуджае ў мяне страшэннае спачуванне!

— Мы хацелі-б адразу падпісаць кантракт, — сказала Жульета.

— Выдатна!.. Калі вы рашылі, дык у чым-жа

* Дыпладок — дапатопны яшчар, даўжынёю каля дваццаці чатырох метраў.

справа?.. Так, разумеецца, усю мэблю я забіраю, у тым ліку кухонныя паліцы.

— Вядома, — сказала Жульета.

— І лінолеум таксама, увогуле ўсё цалкам. І цвікі. Гэта-ж спецыяльныя цвікі.

— А шпалеры са сцен? — запытаў Рамео. Жульета моцна ўшчыпнула яго.

— Шпалеры... звярніце ўвагу, — сказала дама, — яны толькі-толькі зроблены. Я пакажу вам квіток. Мне, безумоўна, давядзецца папрасіць за іх невялічкую кампенсацыю. Зусім глупства!

— Згодны! — перабіла Жульета.

— Люстру я пакідаю. Вядома, без лямпачак, але гэта ўсё-ж люстра. Я купіла яе к свайму вяселлю. Падумаць толькі! Цяпер, каб купіць такую люстру, давялося-б душу закласці... У кухні застаецца яшчэ газавая гарэлка, потым паліца ў шафе каля сцяны, кавалак лінолеума пад скрынкай для смецця — для чыстаты. Ды ўсё гэта ўвойдзе ў адступныя.

— Колькі-ж вы просіце адступных?

— Ага, так... Дзвесце тысяч франкаў. Ды і то гэта таму, што вы зусім маладыя людзі, ледзь пачынаеце сваё жыццё. Я ведаю, колькі гэта абыходзіцца, не думайце! Я дам вам растэрміноўку. Сто тысяч адразу і сто тысяч праз поўгода. Толькі чуеце, калі вам гэта не да спадобы, то ўжо ёсць трое жадаючых.

Праз чвэртку гадзіны Жульета плакала ў суседнім скверы, а Рамео звяртаўся да пана бога, молячы яго наблізіць доўгачаканы дзень вяселля. Сёння-ж субота! Такое цудоўнае надвор'е! Але не падобна было, каб пан бог лічыў гэта сваім абавязкам у іх справе. І пакольکі трэ' было асушыць слёзы Жульеты, Рамео ўзяў таксі, — павазіць любую. Бываюцька хвіліны ашалеласці!..

... У часе пагулянкі ў Жульеты, якая непрыкметна разглядала нейкую аб'яву над лічыльнікам таксі, узнікла ідэя.

— Я знайшла выхад, — сказала яна. — Хадзем у пасрэдніцкае бюро. Ва ўсякім выпадку, наша спроба нічога не будзе каштаваць.

— Чаму ты так думаеш?

— Урэшце рэшт мы зможам сказаць, што ўсё перабралі... Ну, я прашу цябе...

— Ладна. А што для гэтага трэба зрабіць?

— Ну... мы павінны зрабіць такі выгляд... глядзі... такі выгляд... Ну, увогуле...

— Ну, які выгляд?

— Ат, які ты нездагадлівы! Ну, выгляд, як у людзей, што шукаюць прыстойную кватэру. Як у багатых людзей. Тады нам лягчэй будзе дамовіцца. Да таго-ж гэта цікава і весела.

Праз поўгадзіны паважная маладая пара ўвайшла ў бюро пад назвай «Кожнаму сваё гняздзечка» і з выглядам зусім роўнадушным да ўсяго наземнага размясцілася на крэслах у зале для чакання. Побач на канапе нейкая пажылая пара выказвала сваё нецярпенне. Часад-часу адзін з чатырох кліентаў уставаў і пачынаў сур'ёзна хадзіць каля сцяны. Якіх толькі тут не прапаноўвалі памяшканняў: «камерцыйныя», «павільёны», вялікія «сонцам залітыя», кватэры, асабнякі, фундаментальныя будынкі, чатырохпакаёвыя кватэры з балконам і з усімі выгадамі, «какетлівыя студыі», кватэры для халасцякоў.

Увагу Жульеты прыцягнула нядаўна адрамантаваная раскошная кватэра з васьмі пакояў з усімі выгадамі, з вісячым садком, з прыгожым выглядам і з асобным памяшканнем для чэлядзі.

Прыемна ўсё-ткі ўсвядомліваць, што і ва ўмовах жорсткага жыллёвага крызісу існуюць выключэнні!

Пакуль Жульета разглядала аб'явы, Рамео разгаварыўся з пажылой парай. Тыя былі пры надзвычай узнятым настроі: зусім нядаўна яны атрымалі па спадчыне мільён, які быццам з неба на іх зваліўся. Цэлы мільён! Вось цяпер дык яны маглі наняць памяшканне!

І вось адчыніліся дзверы, і пажылая пара накіравалася туды. Праз дзесяць хвілін дзверы зноў адчыніліся, і з пакоя пачуўся стомлены голас: «Мільён? Але што можна зрабіць, маючы ўсяго толькі адзін мільён? Мы, вядома, паспрабуем...»

У сем гадзін вечара Рамео і Жульета, зусім знямогшыя, прыселі на лаўцы сквера.

Яны пабывалі ў чатырох бюро і ўсюды былі прыняты вельмі ветліва. Першае бюро займалася толькі продажам кватэр, але за 200—300 тысяч адступных можна было падшукаць пакой... Другое займалася толькі абменам. Аднак, што магла маладая пара прапанаваць у абмен, акрамя трох дошчак у падлозе, якія займала Жульета, ды кутка, дзе спаў Рамео? Трэцяе займалася здачай у наймы за адступныя...

У апошнім, чацвертым, бюро можна было знайсці ўсё, чаго душа жадала. Гэта была досыць падазроная ўстанова, на чале якой быў нейкі пан з вусамі.

Ён прапанаваў такія варыянты:

1. Купіць яго памяшканне(?), якое, разумеецца, зоймуць яны, і потым, калі яны падшукаюць для сябе іншае, перапрадаць яго; гэта дазволіць ім заплаціць за кватэру і, акрамя ўсяго, яшчэ нажыцца, зарабіць на гэтым.

2. Купіць за бясцэнак(?) памяшканне, якое займае хто-небудзь. Пан з вусамі бярэ на сябе (за камісійную ўзнагароду) вызваліць гэтае памяшканне з дапамогай судовага працэса, які ён выйграе. Вы разумееце, у чым тут выгада? За 500 тысяч франкаў вы прыдбаеце невялікую кватэрку кантоўнасцю ў два мільёны. Нарэшце...

Абышоўшы ўсе бюро, яны накіраваліся да Жульеты і на прыступках лесвіцы спаткаліся з дыпладокам. Пасля кранаючай прамовы аб узнёслым і чыстым каханні і ўспомніўшы, што «з любым рай і ў будане», дыпладок у заключэнне зрабіў ім маленькую прапанову. «Мая жонка, — сказаў ён, — якраз шукае служанку, вядома, калі гэта вам падыходзіць... Канешне, там можа спаць адзін чалавек, але раз у месяц...»

Фізічна яны адчувалі сябе надта стомленымі. Але маральна... Эх! Маральна яны, з-за адсутнасці дыпладока, змаглі-б задушыць льва!

Цэлую гадзіну яны цалаваліся на скверы, час-ад-часу перасядаючы з лаўкі на лаўку, мяняючы, так сказаць, кватэру, і прытым без адступных. Затым, не забыўшыся на пакет з земляными арэхамі, яны сышлі да берага Сены і, наглядаючы за плынню вады, прызналіся адзін аднаму, што Парыж — самы цудоўны горад у свеце. Навокал у цяністых кутках сядзелі тысячы закаханых пар, і адзінокія пешаходы сарамліва хавалі ад іх вочы. Што-ж зробіш, калі ў людзей няма жылля?

На беразе, пад мостам, два валацугі — адзін у саламяным капелюшы, другі ў кацялку, размаляваным кветкамі — спрачаліся.

— Пяцьдзесят — круглая цана, — сказаў саламяны капялюш. — Ні адным су больш, ні адным су менш.

— Трыццаць, і то па маёй дабраце, — адказаў кацялок. — У Габілу ёсць бочка, у якой можна свечку нават запаліць, і ён просіць усяго дваццаць пяць. Ну?

— Дык і ідзі да Габілу.

— Я не магу спаць у бочцы... Трыццаць пяць.

— Сорак пяць, ні адным су менш. Тут, сябра, пацукоў няма. І людзей тут амаль не бывае. Спакойна, ніхто цябе не патурбуе.

— Але Габілу дае мяшкі, каб падаслацца.

— Так, але ў Габілу ў 5 гадзін раніцы трэба ачысціць месца.

— Калі ў цябе так хораша, заставайся тут сам... Трыццаць?

— Гэта трэба здзіўляцца, — сказаў саламяны капялюш. — Якое грамадства! Якія норавы! Што за ўрад! Такі жыллёвы крызіс, што і аднаму чалавеку няма дзе прымасціцца; пад мостам і то не вельмі лёгка ўладзіцца. Таксама не абыйдзешся без адступных. Адступныя за начоўку пад адкрытым небам!.. Давай трыццаць пяць, ні адным су менш...

— Па руках, — згадзіўся кацялок.

І ён тут-жа ўлёгся.

А Рамео і Жульета блукалі каля Сены, скрозь пакрытай вогненнымі плямамі, якія адсвечваліся ад вакон дамоў. І вольна жылося тут рыбе, сапраўды шчаслівай, як рыба ў вадзе.

Пераклад з французскай мовы.



Пятрусь МАКАЛЬ

## Мой сакрэт сардэчны

Для цябе адной хаваю
Я сакрэт сардэчны свой.
Але ўсё не выпадае
Мне пагутарыць з табой.

Вандравала летам недзе...
Ну, а я чакаў зімы.
Думаў, толькі ты прыедзеш —
І навек падружым мы.

Праміналі дні імкліва.
Пабяліла ўсё зіма.
Я-ж ізноў хаджу сумлівы,
Бо цябе са мной няма.

А як часам выпадкова,
І сустрэнуся з табой,
Дык ідзеш абавязкова
Ты з сяброўкаю сваёй...

«Добры дзень!» ці «З добрым раннем!» —
І ніякіх іншых слоў.
Да наступнага спаткання
Уздыхай, хлапец, ізноў.

Для цябе адной хаваю
Я сакрэт сардэчны свой.
Толькі ўсё не выпадае
Мне пагутарыць з табой.

# Самы буйны ў краіне

«Всё, что требует желудок, тело или ум, всё человеку представляет ГУМ», — пісаў у рэкламных радках Маякоўскі. Гэта было напісана шмат год таму назад, калі толькі пачынаў наладжвацца савецкі гандаль і ў будынку «Верхніх гандлёвых радоў» на Краснай плошчы быў адчынены першы ў краіне дзяржаўны універсальны магазін. Па сутнасці, гэта быў не адзін магазін, а мноства малых крамак, раскіданых па вялікім памяшканні пасажа.

Тое, аб чым пісаў Маякоўскі, хутчэй адносіцца да новага ГУМа, які нядаўна адкрыты ў цэнтры нашай сталіцы і які зусім не падобны на ранейшы, першы універмаг. ГУМ цяпер — непераўзыйдзены ўзор савецкага высокакультурнага гандлю, узор выдатнага абслугоўвання спажыўцоў.

Агульны аб'ём ГУМа перавышае аб'ём дома-гіганта на Смаленскай плошчы ў Маскве. Ён мае тры лініі — тры гандлёвыя вуліцы — кожная даўжынёю ў чвэрць кіламетра. І як пад кожнай вуліцай сучаснага горада схавана вялікая камунальная гаспадарка, так і тут, пад гандлёвымі вуліцамі, схавана складаная гандлёвая тэхніка.

Для велізарных памяшканняў зроблена нанава сістэма ацяплення і вентыляцыі, якая дазваляе на працягу гадзіны тры разы змяніць паветра. Пры ўваходзе ў магазін зроблена цеплавая заслона, і кожнага ўваходзячага абдае прыемнымі, цёплымі струменямі паветра. У ГУМе ёсць унутраная аўтаматычная тэлефонная станцыя на 500 нумароў, побач з кожным прылаўкам стаіць тэлефонны апарат.

Маскоўскі ГУМ — буйнейшае ў краіне гандлёвае прадпрыемства. Нельга не здзіўляцца яго маштабам. Тут працуе звыш пяці тысяч рабочых і служачых. На працягу адной гадзіны абслугоўваецца 20 тысяч пакупнікоў, а адзін дзень гандлю разлічаны амаль на чвэрць мільёна чалавек — насельніцтва даволі вялікага горада!

Зойдзем у салон жаночага адзення. У адрозненне ад звычайных магазінаў, тут няма прылаўкаў. Седзячы за круглым сталом у зручным, утульным крэсле, пакупніца мае магчымасць прагледзець свежыя часопісы мод, а на рухомых манекенах перад ёю дэманструюцца шаўковыя сукенкі самых розных колераў і фасонаў. (У шафах салона штодзённа развешваецца каля 650 сукенак амаль пяцідзесяці фасонаў і мадэлей.). Вопытныя кансультанты-мастакі дапамогуць ёй выбраць сукенку да твару і фігуры, парадзяць у выбары ўпрыгожанняў, паска, каўнерыка, брошкі, штучнай кветкі. Усё гэта магчыма набыць тутжа ў салоне.

Калі-ж пакупніца пажадае сшыць сукенку сама, то, выбраўшы тканіну ў асобным аддзеле, яна можа звярнуцца да першакласнага закройшчыка, які па выбранаму фасону хутка і дакладна па лекалах скроіць яе. Дома застаецца толькі сшыць па швах.

У аддзеле абутку спрактыкаваныя кансультанты дапамогуць пакупніцы выбраць туфлі. Кансультант распытае, да якога колеру паліто або сукенкі пажадана мець абутак, колькі грошай вырашана асігнаваць. Трайныя люстэркі, размешчаныя па сценах, даюць магчымасць убачыць, як выглядаюць туфлі на назе. А побач устаноўлены спецыяльныя рэнтгенаскопы (!), каб, прымяраючы абутак, пакупнік мог бачыць на экране, ці зручна размясцілася ў ім нага.

А для мужчын у вялізнай зале прадаюцца паліто і касцюмы. Шмат якія з іх з... непадрубленымі рукавамі. Пры выбары касцюма ў спецыяльнай майстэрні вам дароблівацць рукавы па даўжыні вашых рук, калі патрэбна, перастаўляюць гузікі.

Ёсць у ГУМе аддзел і без прадаўцоў. За шклом вітрын ляжаць розныя штучныя тавары — настольнікі, сурвэткі, ручнікі, насавыя хустачкі. Побач з кожнай рэччу ўказана цана, і тут-жа ляжаць чэкі. Заплаціўшы ў касе патрэбную суму, пакупнік у кантролі выдачы атрымлівае самую рэч.

Адну пятую ўсёй плошчы магазіна (70 тысяч квадратных метраў) займае «Гастраном». Тут прадаюцца самыя свежыя, высокагатунковыя прадукты. Каб захаваць іх спажыўныя якасці, папярэдзіць ад псавання, у магазіне змантаваны магутныя халадзільныя ўстаноўкі, якія дазваляюць захоўваць аднача́сова да дваццаці вагонаў каўбасных вырабаў, мяса, рыбы, малака, сыру, ікры, фруктаў... У вітрыне-акварыуме плаваюць люстраныя карпы, сцерлядзь, шчупакі... Яшчэ больш вадаём для рыбы знаходзіцца ў падвальным памяшканні, адкуль рыба падаецца наверх спецыяльнымі машынамі.

Калі пакупніку патрэбна купіць, напрыклад, смятаны, але ён не мае ў што яе ўліць, прадавец важыць яе ў спецыяльным парафініраваным папяровым мяшэчку. На першы погляд — гэта дробязь! Але з такіх дробязей складаецца стыль савецкага культурнага гандлю.

Пры ГУМе створаны мастацкі савет. Ён зацвярджае новыя ўзоры вырабаў масавага спажывання, якія вырабляе прамысловасць па спецыяльных заказах маскоўскага Палаца гандлю.

Лепшае, што выпрабляецца ў краіне, можна набыць у ГУМе. Ёсць тут шмат і беларускіх вырабаў: радыёла «Мінск», піяніна Барысаўскай фабрыкі, веласіпеды з маркай Мінскага велазавода, вышываныя вырабы Віцебскай і Бабруйскай фабрык, люстэркі Мінскай фабрыкі, трыкатажныя вырабы з Віцебска.

Буйнейшы ў краіне універмаг наведвае штодзённа шмат людзей з самых розных мясцін нашай вялікай краіны. І кожны выходзіць адтуль з адчуваннем глыбокай удзячнасці Комуністычнай партыі і Савецкаму ўраду за вялікія клопаты аб дабрабыце народа.

**Р. ДЗМІТРЫЕЎ.**



У салоне жаночага адзення ГУМа.
Фото Я. Халіпа.



Алег Кашавы — заслужаны артыст БССР І. Сайкоў, Уля Громава — артыстка Р. Асіпенка.
Фото І. Салавейчыка.

## СПЕКТАКЛЬ АБ ГЕРОЯХ КРАСНАДОНА

... Натхнёныя гукі музыкі напаўняюць залу тэатра. Яны абуджаюць у сэрцах слухачоў пачуцці мужнасці, гонару за тых савецкіх юнакоў, імёны якіх навечна запісаны ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны бессмяротным словам — «Маладагвардзейцы».

Вось перад вачыма гледача паўстае агорнуты чырвоным сцягам помнік-абеліск героям «Маладой гвардыі». Потым яны самі пазіраюць на нас — такія блізкія і дарагія. Як хвалюе ўсіх у зале, калі спевам, гучаннем мелодый оперы да глыбіні душы кожнага даходзіць веліч подзвігу Алега Кашавога, Улі Громавай, Любы Шаўцовай, Вані Земнухова, Сяргея Тюленіна, Клавы Кавалёвай.

Незабываемая сцэна, калі маладагвардзейцы прысягаюць на вернасць Радзіме, сцэна развітання Алега са сваёй маці, або сцэна, як вядуць Валько на расстрэл. Мужнасць юных герояў, якія ў турме спяваюць песню, перадаецца ўсім гледачам.

Хвалюе ўсіх вобраз дырэктара шахты — комуніста, аднаго з кіраўнікоў партызанскай барацьбы ў Краснадоне Андрэя Валько, вобраз маці Алега Кашавога Елены Нікалаеўны. Колькі нянавісці і пагарды выклікаюць гестапавец Брукнер і здраднік Фамін!

Як вышэйшая ступень бясстрашша, вернасці народу і гераізма ўспрымаецца і заключная сцэна.

Спектакль «Маладая гвардыя» нядаўна пастаўлены Беларускім дзяржаўным ордэна Леніна тэатрам оперы і балета.

Перамогай тэатра з'яўляецца не толькі тое, што ён змог вельмі ўдала паставіць гэтую складаную оперу украінскага кампазітара Ю. Мейтуса па лібрэта А. Малышкі (пераклад на рускую мову М. Ісакоўскага), але перамога тэатра асабліва знамянальна тым, што «Маладая гвардыя» амаль поўнасцю ажыццёўлена калектывам моладзі тэатра і студэнтамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Выканаўцы партыі Улі Громавай — К. Кудрашова і Р. Асіпенка; выканаўцы партыі Любы Шаўцовай — Т. Ніжнікава, Н. Нікеева і А. Шаўкавец; Вані Земнухова — Ю. Скарабагатаў; Клавы Кавалёвай — А. Барсукова, Н. Дзвінянінава, Т. Шымко; Валі Борц — Г. Гаўрыльчык і С. Гулевіч; Андрэя Валько — Л. Бражнік — усе яны ў нядаўнім мінулым выпускнікі беларускай, маскоўскай ці другіх кансерваторый Савецкага Саюза, або толькі яшчэ цяперашнія студэнты, якія прыклалі ўсе свае здольнасці для стварэння вобразаў герояў Краснадона.

Побач з таленавітай моладдзю сваёй ігрой захапляюць і вопытныя майстры сцэны: заслужаны артыст БССР І. Сайкоў у ролі Алега Кашавога, народная артыстка БССР Р. Млодэк у ролі маці Алега Елены Нікалаеўны, заслужаны артыст БССР Н. Сердобаў у ролі гестапаўца Брукнера.

Аўтары спектакля рэжысёр О. Марэлёў, дырыжор Т. Каламійцава, дэкарацыі да яго напісаў мастак П. Масленікаў.

Паказ «Маладой гвардыі» на сцэне нашага опернага тэатра з'яўляецца адным са значных дасягненняў выканаўчай культуры беларускай тэатральнай моладзі.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Сцэна з трэцяга акта оперы «Маладая гвардыя».



# Школьнае жыццё

## Гэта самае галоўнае

**З ДЗЁННІКА ТАМАРЫ КАБРУКОВАЙ, САКРАТАРА КОМСАМОЛЬСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ 9-Й МІНСКАЙ ШКОЛЫ**

...Даўно сцямнела, а мы з Інай усё хадзілі па гораду і гаварылі. Я ведаю Іну Яўменаву па нашай школе як выдатніцу і члена камітэта комсамола. Цяпер яна ўжо студэнтка фізіка-матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна, а я яшчэ толькі дзевяціклассніца.

Цяпер мне даручылі такую адказную справу: абралі ўчора сакратаром комсамольскай арганізацыі школы. Я расказвала аб гэтым Іне і вельмі хвалявалася. Іна зразумела маё хваляванне.

— Не хвалюйся, Тамара. Я ўпэўнена, што справішся. І дзяўчынкі ў камітэце ў вас добрыя, дапамогуць, — уздымала мой настрой Іна.

Нядаўна я ўбачыла Іну яшчэ раз, на сустрэчы вучняў нашай школы з яе выпускнікамі, якія цяпер займаюцца ва універсітэце. Калі я ўвайшла ў прасторную, залітую святлом універсітэцкую залу, дзе адбывалася гэтая сустрэча, то нават разгубілася. Столькі было тут хлопцаў і дзяўчат, здаецца, тысяча вачэй глядзела на мяне.

— Ну як, добра ў нас? — пытала Яўменава, водзячы мяне па прасторных аудыторыях універсітэта.

Я ад хвалявання толькі ківала галавой.

— А як наша школа, як у камітэце? — запыталася Іна.

Мне спадабалася, што Іна сказала «наша школа». І я рашыла запрасіць яе да нас. Мне хацелася пачуць слова Яўменавай пра нашу работу. Яна-ж была членам камітэта комсамола...

Пра Іну чулі члены нашага камітэта. Толькі не ўсе ведалі яе ў твар. Калі яна зайшла ў пакой камітэта, то некаторыя дзяўчынкі прынялі яе за прадстаўніка райкома комсамола. Эма Зайцава нават пачала прыводзіць у парадак паперы, якія ляжалі на стале, а Света Круглянская, як ніколі, стала ўглядацца ў план работы.

— Гэта-ж наша Іна Яўменава, — сказала тады я, смеючыся.

Дзяўчынкі ўсёроўна адчувалі сябе крыху напружана.

Цяпер, калі я ўспамінаю гэты выпадак, мне становіцца і радасна, і смешна.

Іну зацікавілі нашы комсамольскія справы.

Яна ўбачыла, што мы не сядзім, склаўшы рукі. Вось нядаўна абмяркоўвалі мы на камітэце пытанне аб паспяховасці Лены Карэўка. Гэтая дзяўчынка з VIII класа нахапала двоек. Яе двойкі ўсхвалявалі ўвесь клас, адной толькі Лене было хоць-бы што. Мы вырашылі сур'ёзна пагаварыць з Ленай на камітэце.

Пагаварылі сур'ёзна: комсамолка не можа адставаць. І пра «вецер у галаве» сказалі. Прапанавалі ёй дапамогу. Лену глыбока ўсхвалявала такая размова. Яна паабяцала выправіцца і слова сваё стрымала. У другой чвэрці дрэнных адзнак у Лены не было. Хіба няма тут нашай заслугі?

Тады пры сустрэчы з Яўменавай мы расказалі ёй і аб тым, як комсамольцы IX класа дапамаглі Лілі Мальчэўскай. З-за цяжкай хваробы Ліля прапусціла ўсю другую чвэрць. Кожнага тыдня наведвалі яе сяброўкі. А калі Ліля ачуняла, разам з ёй стала рыхтаваць урокі лепшая вучаніца класа Ніна Тутаева. Цяпер дзяўчынкі штодзённа паўтараюць пройдзены матэрыял. Калі Лілю выклікаюць настаўнікі, заціхае ўвесь клас. Але ўжо ведах зусім не адчуваецца прабелаў, і ў дзённіку толькі добрыя адзнакі.

...Жыццё зараз у нашай школе нават цікавейшае. Пра гэта сама Іна гаварыла. Напрыклад, гурткі. Нашы комсамольцы ўдзельнічаюць у літаратурным гуртку, якім кіруе настаўніца рускай мовы і літаратуры Ніна Якаўлеўна Шарая. Яны правялі нядаўна цікавыя канферэнцыі. Адна была прысвечана творчасці вялікага пролетарскага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага і называлася «Драматургія М. Горкага». Другая па раману Н. Г. Чэрнышэўскага «Што рабіць?»

Цяпер мы рыхтуемся да дыспуту па кнізе А. Макарэнкі «Педагагічная паэма». А нашы школьныя «пісьменніцы» выпускаюць часопіс «Раннія ўсходы». Тут ёсць і вершы, і байкі, і апавяданні. Можа гэтыя рэчы яшчэ і нельга друкаваць у сапраўдным часопісе, але чарговага нумара «Ранніх усходаў» з нецярпеннем чакае ўся школа.

Я думаю, што Іне нельга было не зацікавіцца нашымі справамі.

Вось нядаўна на пасяджанні камітэта комсамолкі IX класа «А» ўнеслі вельмі добрую прапанову: радыёфікаваць школу.

— Колькі ў нас радыстаў, якія ў радыёгуртох пры Палацы піонераў ходзяць! — сказала Наташа Нікольская.

— Калі ёсць радысты, значыць, і радыёвузел павінен быць. Наш, школьны...

Радыёвузла пакуль яшчэ няма. Але Наташа Нікольская, Ніна Захарава і Сіма Рашал самі пабудавалі ўзмацніцель, прынеслі мікрафон. Ідзе і іншая работа. Пра гэтую справу камітэт не забудзе.

Наладжваем мы і выстаўкі. Усім спадабалася, напрыклад, наша мастацкая выстаўка. Тут былі лепшыя малюнкі: пейзажы, партрэты. Былі і вышыўкі і рукадзелле.

Пра спартыўныя поспехі школы Іна, напэўна, чула і без нас. Гэта-ж наша каманда лёгкай атлетыкі заняла першае месца сярод школ горада. Мы нават паказалі Іне срэбраны кубак, заваяваны нашымі спартсменамі.

Камітэт жыве не толькі комсамольскімі справамі. Шмат комсамолак вельмі добрыя піонерважатыя. Гэта Галя Ганіна, Ала Бліскінава, Оля Голубева. У іх атрадах праходзяць такія цікавыя зборы, як, напрыклад, «Пясняр беларускага народа Янка Купала», «Вучыцца так, як вучыўся В. І. Ленін», «Мой любімы пісьменнік».

Нядаўна піонерка Галя Талочка прышла ў камітэт і папрасіла прыняць яе ў комсамол. Але ёй да чатырнаццаці год нехапае аднаго месяца. Мы прапанавалі ёй пачакаць з паступленнем. Прыемна, што нашу комсамольскую сям'ю папаўняюць новыя сілы.

Мне было радасна, што Іна Яўменава пахваліла нашу работу, сказала, што яна цікавая і што кірунак яе правільны. Іна яшчэ прыдзе да нас...



**Мазырскі гарадскі Дом піонераў наведвае больш 400 школьнікаў. Вучні займаюцца ў гуртках авіямадэліравання, радыё, юных электрыкаў, фатаграфіі, мастацкай гімнастыкі, вышыўкі і іншых.** На здымку (на пярэднім плане): вучні 4-й школы **Эдуард Сакіркін** (злева) і **Мікалай Протчанка за зборкай лямпавага прыёмніка.**

Фота Ф. Раманава. (Фотахроніка БЕЛТА.)

## „ГУСІ" ПАДВЯЛІ

**Фельетон**

Сямікласнікі лічылі сябе героямі дня. У класе панаваў святочны настрой. На перапынках нават Міша Сарока не коўзаўся па поручнях. Прыціхшы, ён стаяў каля акна, расхінуўшы наўсцяж «маланку» футболкі: — «Паглядзіце, сёння і я адпрасаваў свой гальштук!»

Прычына ўрачыстасці была немалаважнай. Сёння збор атрада, на які запрошаны Герой Сацыялістычнай Працы Сцяпан Васільевіч Мельнік. Сямікласнікі першымі сустрэнуцца з сапраўдным героем.

Міша ведаў, што класныя фатографы вырашылі не «спаць у шапку». Яны задумалі сфатаграфаваць героя на сваім зборы. Гэта і хвалявала Мішу Сароку. Ні выдатнікам, ні нават юннатам Міша не быў, але яму хацелася абавязкова сфатаграфавацца побач з героем. На гэты конт ёсць поўная дамоўленасць з Васем Ярмоленкам. Нездарма-ж Міша кожны дзень заходзіў да Васі і хваліў усе яго здымкі. Цяпер трэба «не падкачаць» толькі самому...

Герой прыехаў.

Міша думаў, што герой будзе малады, высокі, чорнавалосы і абавязкова ў чорнай скураной куртцы. А гэты быў у кароткім бобрыкавым паліто, лысы і нават у акулярах. Міша спачатку разгубіўся. А пасля рашыў: «Можа гэта і лепш: старыя больш давярлівыя. Свайго дзядулю я адразу магу расчуліць. Бацьку-ж не праймеш! Як толькі заўважыць, што пачынаю ліпнуць, адразу дзённік патрабуе...»

Міша ўюном прабраўся да Сцяпана Васільевіча. У яго руках быў атрадны альбом.

— Гэта наш зялёны гурток дагледзіў галіцыу-пшаніцу, — затрашчаў ён. — Бачыце, каласы якія! А ў вашым калгасе «галіціца» ёсць? А чаму не ўсе героі ў вас? А мы ў сваім класе ўсіх гусей каюкнулі, ніводнай не пакінулі...

— Якіх гусей? Навошта? — не зразумеў Сцяпан Васільевіч. — Няхай-бы жылі ў жывым кутку.

— Ды не! Гэта мы двойкі «гусямі» завем. «Гусямі», або «цапамі»...

— Вось як? — толькі здзівіўся герой і пранікліва паглядзеў на Мішу.

Абвясцілі пачатак збора, і ўсе накіраваліся ў піонерскі пакой.

Усё ішло спачатку добра. Міша прыціснуўся ў першыя рады і амаль не слухаў, што гаварылі рэбяты. Але вось узяў слова сам Сцяпан Васільевіч. Ён расказваў пра калгасную работу, хваліў рэбят за тое, што добра вучацца. А ў канцы паглядзеў на Мішу і сказаў:

— Гэта вельмі добра, што ў вашым класе няма двоек. А вось правільна гаварыць у вас не ўсе ўмеюць. Я чуў, як сямікласнік заве юннатаў «зялёнымі», двойкі — «гусямі». Навошта такія выкрутасы?

Міша ўвабраў галаву ў самыя плечы і баяўся, каб яго не заўважылі. Ліха на іх, на гэтых самых «гусей»! Вось табе і сфатаграфаваўся!..

**Хв. ЖЫЧКА.**

## Ці ведаеш ты, што...

... Пяцьдзесят год таму назад у Пецярбургу, на Выбаргскай старане, быў спушчаны на ваду першы ў свеце цеплаход. Сканструяваў яго асновапаложнік айчыннага і сусветнага цеплаходабудавання прафесар К. П. Баклеўскі. Цяпер верфі ўсяго свету будуюць цеплаходы. Але радзіма іх — Расія.

... Хуткасць руху малекул вадарода пры звычайнай тэмпературы дасягае 7 000 кіламетраў у гадзіну. З яшчэ большай хуткасцю рухаюцца часцінкі, якія вылятаюць з ядраў пры радыёактыўным распадзе. Іх хуткасць дасягае дзесяткаў тысяч кіламетраў у секунду.

... У прыродзе ёсць арганізмы, якія вытрымліваюць надзвычай высокую тэмпературу — да 140 градусаў цяпла. Яшчэ большую ўстойлівасць маюць некаторыя арганізмы да нізкай тэмпературы. Некаторыя мхі і лішайнікі захоўваюць жыццё, нават калі іх на некалькі тыдняў апусціць у вадкае паветра, што мае тэмпературу мінус 190 градусаў.

... «Дрэвамі-помпамі» называюць эўкаліпты. На працягу года адзін гектар эўкаліптаў выпарвае мільён вёдраў вады. Эўкаліпт ва ўзросце 25 год дае больш драўніны, чым дрэва любой іншай пароды нават у стогадовым узросце.

... У нашай краіне налічваецца больш за 100 запаведнікаў. Некалькі запаведнікаў ёсць у Беларусі — Бярэзінскі, Вялаўскі, Белавежская пушча. У запаведніку Белавежская пушча захаваліся рэдкія жывёлы — зубры, а ў Вялаўскім — даніэлі (лані).

... Мядзведзь, лежачы ў бярлозе на зімній спячцы, губляе за зіму ад трох да пяці пудоў тлушчу на падтрыманне тэмпературы цела ў 36,5—37 градусаў.

... У лёгкіх чалавека знаходзіцца менш літра кіслароду, а ва ўсім целе — каля двух з паловай літраў. Гэтай колькасці кіслароду, без замены яго свежым, хапае арганізму для існавання толькі на працягу некалькіх хвілін.

Н. ГРОДНЕЎ

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ФЕРМЫ

**Нарыс**

Шмат я чытаў пра паляўнічых, знаёміўся, сябраваў з імі. Гэта — сталыя, клапатлівыя людзі, цікавыя апавядальнікі. Як пачнуць успамінаць пра ўдачу ці няўдачу — заслухаешся. Не пайсці самому на паляванне, не паспрабаваць — немагчыма. Ды і хто з нас не любіць узяць у рукі паляўнічую стрэльбу і пахадзіць па нашых хмызняках, балотах?..

Блукаў і я паляўнічым... Была ў мяне дзедава стрэльба. А дзед быў майстар біць звера. Лісу, норку і выдру яму пашанцавала злавіць. Ён вырабляў скуркі і прадаваў. У бабулі яшчэ засталася свайго вырабу гаржэтка з лісы.

Тады я быў яшчэ дома. Помню, прыехала мая зямлячка з Мінска на зімовыя канікулы. Спаткаліся мы. Я расказаў ёй пра вучобу і не сцярпеў, каб не пахваліцца сваім паляваннем, паабяцаў нават першую ўдачу свайго паляўнічага шчасця прынесці ёй у падарунак.

Прыду, бывала, дадому, за стрэльбу і ў лес. Абяцанне не выходзіла з галавы. Час ішоў, канчалася зіма, а я ўсё цікаваў за лісой. Не адны боты стаптаў, а злавіў толькі некім падстрэленага зайца, які сам з гарачкі кінуўся на мяне.

Сорамна стала: нашто паабяцаў толькі?

У канцы зімы зямлячка зноў прыехала з інстытута і кінула мне ў дакор: «Аджыў даўно твой дзедаўскі спосаб месяцамі паляваць на лісу. У нас-жа ёсць беларускі зверасаўгас. Там людзі вырошчваюць пушніну, як пшаніцу ў калгасе».

«Як-жа гэта? Што там за гаспадары пушніны, паляўнічыя без стрэльбаў?» — думаў я. І мяне разбірала страшэнная цікавасць.

У мінулым годзе і я скончыў інстытут. Накіравалі мяне працаваць у Маладзечанскую вобласць, у Вілейскі раён, у школу. А там, у трыццаці пяці кіламетрах ад Вілейкі, на беразе рэчкі Свірч, у сасновым бары раскінуўся беларускі зверасаўгас. Ну, як-жа не пабыць у гасцях? Паехаў... І трапіў якраз на выпускны вечар заатэхнікаў-звераводаў — урачыстае і доўгачаканае свята пяцідзесяці васьмі выпускнікоў. Выпускнікі здалі дзяржаўныя экзамены, атрымалі дыпломы. Радасныя, усе спявалі, смяяліся, круціліся ў танцы.

Больш за ўсіх весялілася невялікага росту дзяўчына з кругленькім тварыкам, курносенькая. Гэта Ядзя Харэцкая. На ўрачыстай частцы яна звярнулася да пажылога хударлявага мужчыны, парторга Івана Мікалаевіча Мацьвеева:

— Іван Мікалаевіч, чэснае слова, вы мяне ўтрымалі тут. Дзякую вам! Перад вамі і калектывам даю слова: вырасціць за год не 50 норак, як гэта было да курсаў, а 200.

— Абяцаю, — падтрымала Ліда Графецкая, сяброўка Ядзі, ціхая і сарамлівая дзяўчына, — вырасціць не 40 лісіц, як гэта было да курсаў, а 120.

Падтрымалі сваіх сяброваk і яшчэ пяцьдзесят шэсць выпускнікоў.

Мяне, як новага чалавека, надзвычай гэта кранула.

На другі дзень мы — Ядзя, Ліда і я — пайшлі па маёй просьбе па краі сасновага бору да норкавай і лісінай фермаў. Вышлі да срабрыстай рэчкі з лазняком па берагах. На тым баку поле, калгас і зноў сасновы бор. Так прыгожа і люба! Ядзя кінула погляд на Ліду, усміхнулася, але задумалася, уздыхнула і зноў усміхнулася.

Успаміны кранулі яе сэрца, і яна пачала расказваць.

У кабінет Васіля Сцяпанавіча Карасталёва, дырэктара беларускага зверасаўгаса, баязліва ўвайшлі яны абедзьве.

Сталі... Маўчаць, пагладаючы адна на другую. Пачала Ядзя, бойка, быццам адсякаючы кожнае слова:

— Мы з просьбай да вас, таварыш дырэктар, каб на работу прынялі, лісіц даглядаць.

Ядзя даўно думала пайсці працаваць у зверасаўгас, яшчэ з таго часу, калі настаўніца-біёлаг вадзіла са школы на экскурсію і ёй вельмі спадабаліся маленькія звяркі. Яна чула, як раней здабывалі паляўнічыя пушніну. Бывала, месяцамі хадзілі за адной лісой або норкай — заяц дарогу перабяжыць і — няўдача. А зараз гадуй, даглядай, сама расце пушніна! «Пайду на работу, зараблю грошай і куплю сабе гаржэтку або каўнер з срабрыста-чорнай лісіцы...» — думала Ядзя, стоячы побач з Лідай.

— Толькі лісіц, а можа норак? — запытаў дырэктар.

— Абы звера... Я люблю даглядаць іх — у нас трусы дома былі...

Праз некалькі дзён Ядзя бегала каля домікаў норкавай секцыі. Кідалася ад аднаго доміка да другога, разносіла ежу, выганяла з саламяных гнёзд маленькіх чорненькіх звяркоў да сподачкаў, якія ўжо стаялі на драцяной сетцы. Маленькая дзікая норка выскачыць у сетку і пачынае кідацца, шукаючы прастору і волі. Пастаўленую ежу перакуліць і зноў нырне ў гняздо. Ядзя хвалюецца, злуецца, а потым усё пачынае спачатку.

Першыя крокі ў рабоце не падабаліся.

Ядзя хацела паглядзець на сяброўку, на Ліду Графецкую, якая пачала працаваць на ферме з лісіцамі. Збегала, паглядзела. А там такі жах! Паспрабуй толькі празяваць, падносячы ежу, дык і руку адкусіць азвярэлая ліса, якая так страшэнна гарцуе па клетцы, што ледзь трымаюцца металічныя дугі. «Паспрабуй накарміць, прывучы такога д'ябла!» — склаўшы рукі, думала Ядзя. Паглядзела на лісіц, Ліду, толькі згледзела, як яна, спяшаючыся, несла два вядры мяса да клетак. Ядзя прыбегла да сваіх норак і зноў пачала завіхацца.

Да вечара не прысела. Змарылася... Так цяжка і няўдала прайшоў першы дзень работы. А ўвечары на танцавальнай пляцоўцы — музыка. Ідучы з работы, сустрэліся з Лідай. Ліда спытала:

— Ну, як норкі?

— А так, як і лісіцы, — бойка адказала Ядзя.

— На танцы пойдзем?

— А можа, адпачнем пасля працы?

І так пабеглі клапатлівыя дні...

Ядзю на танцах бачылі адзін раз у тыдзень. Сустракалася яна з Лідай рэдка. А калі сустрэнуцца, дык быццам пачынаюць калючкі кідаць адна другой. Не пагавораць шчыра, не падзеляцца думкамі... Збоку стала прыкметна, быццам сяброўкі нечым незадаволены. Можа не паладзілі?.. А можа работа не спадабалася?.. Ядзя стала маўклівай, як некалі Ліда. А прывыклі Ядзю і Ліду бачыць разам. Адна маленькая, але ўвішная, вяртлявая, а другая, Ліда, больш сталая і сарамлівая. Яны заўсёды ўдваіх. Быццам адна дапаўняла другую. Ядзю без Ліды немагчыма было нават уявіць, і наадварот.

Што-ж здарылася ў іх? Мо' ад гонару, што Ядзя на норкавай ферме працуе, а Ліда — на лісінай?

Так закончылася лета і пачалася восень. Ядзя ні разу не адчувала радасці ў сваёй працы. Што ні зробіць сама, усё не так, —



Ядзвіга Харэцкая ўзважвае норак.

**Ліда Графецкая** (злева) **і Ядзвіга Харэцкая за вывучэннем анатоміі срабрыста-чорнай лісіцы.**

Фото Н. Белабровіка. (Фотахроніка БЕЛТА.)



абавязкова заатэхнік паправіць. Ядзя пачне нервавацца і думаць: «Калі-б і я павучылася, і я пачала-б па навуцы патрабаваць ад сябе. А дзе я што чула ці бачыла, апрача бацькоўскіх стрэх?!. Паспрабуй дзяўчыне з вёскі вырасціць за год пяцьдзесят штук норак!»

Аднойчы ў дажджлівы восеньскі дзень Ядзя даглядала норак. Спяшалася, каб хутчэй накарміць, а ўвечары хоць кіно паглядзець. І вось адна норка, як на злосць, забілася ў саламянае гняздо і не вылазіць. Тады Ядзя рукой пачала даставаць яе. Норка — у куток. Ядзя знайшла, схапіла за пярэднюю лапку і пачала цягнуць. Звярок упіўся зубамі ў палец. Кроў заліла далонь, Ядзя заплакала, пабегла да фельчара. Ад фельчара да дырэктара, каб заявіць у вочы рашуча і канчаткова, што даўно накіпела ў грудзях.

«Няхай яны падохнуць, вашы норкі, больш працаваць я не буду! Толькі так скажу, іншых слоў няма», — вырашыла Ядзя.

Яна стала каля дзвярэй кабінета дырэктара з заплаканымі вачыма, падняла руку, каб пастукаць у дзверы, спытаць дазволу. Але раптам дзверы самі адчыніліся. З кабінета выйшлі дырэктар і парторг. Яны гаварылі пра нейкія курсы заатэхнікаў-звераводаў, якія пачнуць працаваць праз некалькі дзён пры зверасаўгасе. Ядзя прыслухалася... «Васіль Сцяпанавіч...» — але штосьці перасохла ў горле, калі яна пачула пра курсы, і нічога не змагла прагаварыць ім наўздагон, толькі падумала: «Я-ж камсамолка...» Ядзя дастала з кішэні люстэрачка і, паглядзеўшы на сябе, выцерла пачырванелыя вочы, усміхнулася.

— Што, Харэцкая... Курсы ўзрадавалі? — запытаў Іван Мікалаевіч. Ён, чагосьці спяшаючыся, ішоў назад у кабінет дырэктара.

— А хіба і мяне пашлеце? — з радаснай надзеяй прагаварыла Ядзя.

Пры зверасаўгасе пачалі працаваць трохгадовыя курсы заатэхнікаў-звераводаў. Ядзя і Ліда пачалі вучыцца. Селі побач, па-сяброўску. Ядзя неяк асабліва ўсміхнулася Лідзе. Яны сядзелі над канспектамі, слухалі лекцыі, як лепш даглядаць звера, як вырошчваць добраякасную пушніну. З першага дня сяброўкі настойліва ўзяліся за вучобу.

Працавалі і вучыліся...

Сяброўкі зноў знайшлі агульную мову, іх часцей можна было бачыць разам на сходзе, у бібліятэцы, у кіно і на танцах.

Прайшоў год, і яшчэ адзін...

Ядзя сапраўды стала гаспадаром норак. Калі што не так, яна паглядзіць у канспект, або знойдзе адказ у кніжцы. Цяпер ужо не пачуеш ад яе гнеўнага выкрыку на норак. Прывычка? Не, не ў гэтым справа.

Ядзя стала адукаванай даглядчыцай. Кожны год павялічваўся план: вырасціць за год маладняка ад 50 норак да 100 і больш, акрамя таго, лекцыі, канспекты, кніжкі.

Ядзя і Ліда здзіўляліся: справу стала ўдвая больш, а працаваць напалавіну лягчэй. Працавалі на ферме да вечара, а ўвечары — на вучобу. Былі дні, што нават і есці даводзілася на хаду.

І вось прышло доўгачаканае свята — дзень выпуску на курсах...

Сонца паднялося вышэй, пакуль апавядалі мне аб усім гэтым дзяўчаты.

Тут, у зверасаўгасе, — двухпавярховыя дамы рабочых, цагляная двухпавярховая школа, клуб. Усё гэта новыя і прыгожыя будынкі будучага гарадскога пасёлка. І пакуль я дайшоў да канцылярыі зверасаўгаса, я не мог налюбавацца на акаляючы чароўны пейзаж і на тое будаўніцтва, якое шырыцца, прыгажэе.

Да 1939 года тут быў маленькі маёнтак польскага пана, пан займаўся развядзеннем пушніны. А зараз тут горад паўстаў і расце. Расце і багацее саўгас.

— У мінулым годзе чыстага прыбытку ад пушніны далі дзяржаве на паўтара мільёна рублёў, — сказаў парторг Іван Мікалаевіч. — А ў гэтым годзе больш дадзім. А людзі ў нас... Вы-ж, здаецца, знаёмы?.. Вось Ядзя Харэцкая вырасціла 202 норкі, прыкладная работніца. Ліда Графецкая вырасціла 122 лісы. Галіна Шупенька вырасціла 120 лісіц, Ядзя Вайцяшонак...

Гэтыя словы я чуў нядаўна. Скрыпучы студзеньскі мароз. Снежная дарога прывяла мяне да домікаў норкавай секцыі, якія пад белымі дахамі працягнуліся паралельнымі радамі. Важна праходзіць паміж імі сталая іх гаспадыня, — даглядчыца маленькіх чорненькіх звяркоў Ядзя Харэцкая. Яна спрактыкаваным вокам сочыць за кожным сваім выхаванцам. Чорная норка выскачыць з дашчанага доміка ў драцяную клетку, прыветліва падымецца на заднія лапкі, шмыгне ў домік, зноў выскачыць з яго. Яны такія ласкавыя і прывучаныя, быццам хатняя жывёла. Ядзя расказала мне, як даглядае зараз норку па новых навуковых метадах, расказала і аб тым, што многа і зараз чытае кніжак па звераводству, каб яшчэ палепшыць догляд.

Потым пайшлі мы да яе сяброўкі Ліды. Палюбаваліся срабрыста-чорнымі лісіцамі, тым, як яны гарцуюць па клетках. Ліда адчыніла дзверцы доміка лісы, узяла на рукі срабрыста-чорнага звярка і закінула на шыю. Пушысты хвост звесіўся да снежнага долу.

— Паглядзіце, такая рахманая, як кошка, — сказала яна. — А ў Мінску колькі жанчын носяць каўняры з маіх лісіц...

Яна крутнулася перад намі з лісой на шыі, буры пушысты хвост з беленькім кончыкам апісаў у паветры круг.

У 1953 годзе беларускі зверасаўгас здаў дзяржаве 3142 лісіныя скуркі і 3902 норкавыя. На 1954 год запланавана і ўзята сацабавязацельства вырасціць маладняку срабрыста-чорнай лісіцы 3216 галоў, норкі — 4021.

Вялікія планы! Іх трэба здзейсніць. Рабочыя ведаюць сваю сілу і магчымасці. Не дарэмна завуць іх: гаспадары пушніны. І ў гэтай сям'і займаюць пачэснае месца Ядзя і Ліда, простыя дзяўчаты, слаўныя гаспадары, якія неўзабаве паедуць у Маскву на ўсесаюзную выстаўку шырокага паказу пушніны.

**Вілейскі раён**
**Маладзечанскай вобласці.**



**Агульны выгляд адной з секцый фермы срабрыста-чорных лісіц.**

Совецкіх спартсменаў прымаў галоўны рэдактар газеты «Юманітэ» Марсель Кашэн. Гэты сяброўскі прыём надоўга запомніла Ніна Кабыш. Ёй разам з іншымі совецкімі спартсменамі было даручана абараняць спартыўную чэсць Совецкага Саюза ў кросе імя газеты «Юманітэ». Марсель Кашэн і другія супрацоўнікі рэдакцыі віталі пасланцоў совецкай моладзі, ад душы жадалі ім поспехаў і паднеслі памятныя падарункі.

Усхваляваныя сяброўскай сустрэчай, вышлі совецкія спартсмены з будынка рэдакцыі французскай комуністычнай газеты. Парыжскія вуліцы былі пустыя і маўклівыя. Усеагульная забастоўка працоўных горада паралізавала транспарт... Ніна і яе сябры ішлі да гасцініцы. Імжыў цёплы сакавіцкі дождж. Нізкія хмары паўзлі над прыціхшай французскай сталіцай.

У сваім нумары Ніна, успамінаючы гэты дзень ва ўсіх падрабязнасцях, міжволі падумала: «А што зараз робяць у роднай Ветцы? Маці, відаць, яшчэ на рабоце...» і ўспомніла мінулае.

У сямігодцы ўступіла ў комсамол. Пасля пачала працаваць у Веткаўскай арцелі «Аб'еднанне». Прачытаўшы аб'яву аб тым, што калектыў фізкультуры арцелі праводзіць профсаюзна-комсамольскі крос, дзяўчына захацела паспрабаваць свае сілы і прыняла ўдзел у бегу на 500 метраў.

Ніна закончыла гэтую дыстанцыю пераможцай. Ёй прапанавалі выступаць на абласных спаборніцтвах у Гомелі. Нягледзячы на тое, што Ніна трэніравалася ўсяго толькі некалькі дзён, яна і ў Гомелі хутчэй за ўсіх прабегла дыстанцыі ў 400 і 800 метраў. Кабыш уключылі ў зборную каманду вобласці. Праз месяц яна прыняла старт на мінскім стадыёне «Дынама». Тут яна фінішыравала другой. У дзяўчыны яшчэ мала было вопыту, ёй невядома было майстэрства лёгкага, імклівага бегу. Але трэнеры ўключылі яе ў зборную каманду рэспублікі па лёгкай атлетыцы.

На ўсесаюзным пяршынстве па лёгкай атлетыцы яна выступала па групе дзяўчат. Ніна ўпарта змагалася за перамогу, але прадстаўніца маскоўскай каманды на нейкую долю секунды першай дакранулася да фінішнай істужкі. Горка было Ніне ўсведамляць, што гэтае вось імгненне пазбавіла яе перамогі. Другой была Ніна і на фінішы дыстанцыі ў 800 метраў.

Аднак час, паказаны маладой спартсменкай, быў занесены ў табліцу рэкордаў Беларусі сярод дзяўчат як на 400, так і на 800 метраў.

Здавалася, што ў наступных спаборніцтвах маладая спартсменка палепшыць свае вынікі, будзе бегаць яшчэ хутчэй, фінішыраваць яшчэ імклівей. Але здарылася адваротнае. Як ні імкнулася Ніна дасягнуць новых поспехаў, ёй гэта не ўдавалася. І гэта было заканамерна. Першыя перамогі былі дасягнуты тым, што, фізічна моцная ад прыроды, дзяўчына авалодала першапачатковымі элементамі тэхнікі бегу, а глыбіні ведаў і сур'ёзнай практыкі не мела. Цяпер перад ёй ляжаў яшчэ больш складаны шлях па авалоданню вышэйшымі спартыўнага майстэрства.

Тады Ніна паступіла ў Мінскі тэхнікум фізкультуры.

Яна пачала трэніравацца ў аднаго з вопытнейшых спартыўных педагогаў комуніста Сямёна Іванавіча Гетманца. Ён пачаў вучыць сваю выхаванку асновам майстэрства бегаць хутка і лёгка. Уважліваназіраў Сямён Іванавіч за кожным рухам Кабыш на беговай дарожцы. Трэнер шукаў і выпрацоўваў неабходны для яе стыль бегу. Дзяўчына пазнаёмілася з тэхнікай махавага крока, пастаноўкай нагі на беговую дарожку, сістэматычна трэніравала мускулы ног спецыяльна падабранымі для яе практыкаваннямі. І вынікі пачалі паступова паляпшацца.

У сезоне 1948 года на першых-жа буйных спаборніцтвах Ніна Кабыш устанавіла новы рэкорд. А ў бегу на 800 метраў ёй да высокага звання майстра спорту нехапіла ўсяго толькі паўсекунды. На што ўжо кароткае гэта імгненне, але колькі і якой працы каштавала спартсменцы і яе трэнеру скінуць яго з секундамера! На лёгкаатлетычным пяршынстве Совецкага Саюза ў тым-жа годзе Ніне Кабыш удалося дасягнуць большага. Яна на 1,5 секунды перавыканала норму майстра спорту.

ЛЮДЗІ СОВЕЦКАГА СПОРТУ

# Ніна Кабыш

Ю. БАГУШЭВІЧ



Узмоцненыя трэніроўкі далі свае вынікі. Прышоў час, калі пасля фініша ў бегу на 800 метраў суддзя абвясціў:

— Ніна Кабыш паказала час 2 мінуты 13,9 секунды. Гэта другі вынік у свеце, які ўступае толькі выніку маскоўскай спартсменкі Еўдакіі Васільевай.

Цяпер майстар спорту Ніна Кабыш стала членам зборнай каманды Совецкага Саюза. На перапоўненым маскоўскім стадыёне «Дынама» быў дадзены старт жаночай эстафеты $3 \times 800$ метраў. Першай бегла па дарожцы ленінградка Сакалова. Ад яе эстафетную палачку прыняла Кабыш. Апошні этап прайшла заслужаны майстар спорту Васільева. Гэтыя тры спартсменкі ўстанавілі новы сусветны рэкорд, паказаўшы час 6 мінут 42,6 секунды. Яны былі ўзнагароджаны залатымі медалямі.

... Усё гэта міжволі ўсплыло ў памяці Ніны, калі яна знаходзілася ў адным з нумароў парыжскай гасцініцы.

Штодня раніцай совецкія спартсмены выходзілі на чарговую трэніроўку ў Булонскі лес. І яны дзівіліся з таго, што бачылі на алеях гэтага парка. Растаўсцелыя буржуі рабілі свой ранішні моцыён, пакаёўкі выводзілі на пагулянку цэлыя зграі стрыжаных пудзеляў, закутаныя ў футры паненкі праносіліся міма ў бліскучых старадаўніх экіпажах. Непрыязнымі позіркамі глядзелі гэтыя паны на групу совецкіх спартсменаў.

Але вось надышоў дзень спаборніцтваў. Яны праводзіліся далёка ад цэнтра горада, але нягледзячы на гэта працоўныя Парыжа хто пешшу, хто на веласіпедах спяшаліся да загараднага парка. Тысячы парыжан радасна віталі совецкіх спартсменаў.

Дыстанцыя жаночага кроса была каля 2400 метраў. Ніна ўпершыню выступала за межамі Радзімы. Зразумелым было яе хваляванне, калі ўдзельніц выклікалі да стартавай лініі. Яна адчувала найвялікшую адказнасць — на яе-ж майцы красаваўся герб СССР. Прагучэла незнаёмая каманда, і спартсменкі рушылі ўперад. Побач з совецкімі спартсменкамі беглі францужанкі, венгеркі, чэшкі. Але праз некалькі мінут усе восем спартсменак Совецкага Саюза былі ўжо наперадзе. І на фінішы яны былі першыя, а сярод іх беларускі майстар спорту Ніна Кабыш.

Потым беглі мужчыны. І тут першымі фінішыравалі мужчыны з малюнкам совецкага герба на майках. Ад усёй душы віталі парыжане пераможцаў. Ім пацiскалі рукі, дарылі кветкі, у іх гонар аркестр выканаў Гімн Совецкага Саюза.

Пасля звароту з Парыжа Ніна Кабыш працягвала навучанне ў тэхнікуме фізкультуры. Скончыўшы тэхнікум, пачала працаваць у Брэсце інструктарам фізкультуры. Не бачачы яе на спаборніцтвах, некаторыя з «балельшчыкаў» вырашылі, што выступаць яна ўжо больш не будзе. Але прайшоў год, і Ніна зноў сустрэлася са сваім трэнерам — Сямёнам Іванавічам Гетманцам.

Сістэматычныя заняткі пачаліся з зімы 1953 года. Аднаўлялася былая хуткасць, выпрацоўвалася вынослівасць, удасканальвалася тэхніка бегу. Але ў Ніны з'явіўся моцны супернік. Мінская студэнтка Елізавета Ермалаева па сваіх выніках пачала набліжацца да рэкордаў Беларусі ў бегу на 400 і 800 метраў. Упарта, штодзённа займалася яна бегам, старанна рыхтуючыся да спаборніцтваў. Вясной Ермалаева і Кабыш упершыню сустрэліся на беговай дарожцы. Перамогу атрымала комсамолка Ліза Ермалаева. Праўда, яна фінішыравала толькі на 0,1 секунды раней, але ў спорце гэта азначае многае.

Праз месяц Ермалаева ўстанавіла новы рэкорд Беларусі па бегу на 200, 400 і 800 метраў. Да гэтага апошнія два належалі Ніне Кабыш.

У барацьбе нараджаюцца новыя перамогі. Так было і ў сезоне 1953 года. Спартсменкі сустрэліся другі раз на рэспубліканскім пяршынстве. Двойчы яны прымалі старт ў бегу на 400 метраў, і двойчы першай заканчвала дыстанцыю Ніна Кабыш, з кожным разам паляпшаючы рэспубліканскі рэкорд. Яна паказала час, роўны 57,5 секунды.

Праз некалькі тыдняў абедзьве беларускія спартсменкі выступалі на пяршынства Совецкага Саюза. На старт фінальнага бегу ў 800 метраў вышлі мацнейшыя спартсменкі свету: сусветная рэкардсменка украінка Ніна Откаленка, Дора Бараховіч, Галіна Чарнашчок, Ніна Кабыш, Елізавета Ермалаева і іншыя.

Выстрал суддзі на старце, і ўся група рушыла ўперад. Бег пачала весці Бараховіч. Кабыш бегла амаль што апошняй — яна затрымалася на старце. Затым Ніна наблізілася да тройкі вядучых. Наперадзе яе былі Бараховіч, Откаленка і Чарнашчок. Калі да фініша заставалася метраў 150, Ніна павялічыла хуткасць. Але гэтак-жа імкліва паскарала бег і Откаленка. Першай з новым сусветным рэкордам фінішыравала Ніна Откаленка, другой Дора Бараховіч. А трэцяй з новым рэкордам Беларусі — 2 мінуты 10,8 секунды — Ніна Кабыш. Гэта чацвёрты вынік у свеце ў бегу на 800 метраў.

Скончыўся яшчэ адзін спартыўны сезон. Ніна Кабыш ведала: да вышыняў майстэрства шлях ляжыць праз упартую вучобу. Яна стала студэнткай Беларускага інстытута фізкультуры. У новым годзе рэкардсменка рэспублікі намячае зрабіць многае. У спорце — дамагчыся такіх вынікаў, каб у складзе зборнай каманды Совецкага Саюза ўдзельнічаць у розыгрышы пяршынства Еўропы па лёгкай атлетыцы. У вучобе — атрымаць трывалыя веды і паспяхова перайсці на другі курс інстытута.

В. ПАЛЯШУК, С. ЯКАЎЛЕЎ

# ФРАНЦУЗСКІЯ БАРАЦЬБІТЫ ЗА МІР



Анры Мартэн.

Францыя перажывае зараз адзін з найбольш адказных перыядаў сваёй гісторыі. Варожыя міру сілы як за межамі Францыі, так і ўнутры краіны імкнуцца прымусіць яе ісці па шляху поўнай страты нацыянальнай незалежнасці і самастойнасці, па шляху ваенных авантур і разрыву традыцыйных дружалюбных сувязей паміж французскім і савецкім народамі. Змагаючыся за ўключэнне Францыі ў так званае «еўрапейскае супрацоўніцтва», гэтыя сілы імкнуцца зрабіць яе ахвярай адроджанага германскага мілітарызма. Яны ўжо восьмы год вядуць каланіяльную брудную вайну супраць гераічнага в'етнамскага народа, з аднолькавай гатоўнасцю пастаўляючы для бойні грошы і кроў соцень тысяч французскіх салдат.

Гэтыя сілы, нарэшце, спрабуюць супроцьпаставіць французскі народ савецкаму народу, сустракаючы кожную міралюбівую савецкую прапанову хваламі хлусні і паклёпу.

У абарону Францыі, яе свабоды і шчасця падымаюцца ўсе дэмакратычныя і прагрэсіўныя сілы, якія ўзначальвае слаўная Камуністычная партыя.

У барацьбе французскага народа за мір і свабоду ўсё больш актыўны ўдзел прымае французская моладзь. Яе гераічныя справы сталі прыкладам для маладых барацьбітоў за мір усяго зямнога шара. Хто не ведае сёння імя слаўнай дачкі французскага народа Раймонды Дзьен, якая сабой перагарадзіла дарогу эшалону з танкамі, што вёз зброю французскім салдатам у В'етнам! Легендарным стала імя Анры Мартэна — маладога ваеннага марака, які ў 1951 годзе быў прыгавораны да пяці год зняволення за распаўсюджванне лістовак супраць «бруднай вайны» ў В'етнаме.

З турмы Анры Мартэн пісаў: «Я веру ў перамогу народа».

Мужнага барацьбіта за мір не запалохаў прыгавор суда, як не запалохалі французскую моладзь жорсткія ўрадавыя рэпрэсіі.

Анры Мартэн прабыў у турме 41 месяц. І ўвесь гэты час моладзь усяго свету вяла барацьбу за яго вызваленне. У Францыі былі створаны камітэты дзеяння за вызваленне Анры Мартэна. Яны збіралі подпісы пад петыцыямі, распаўсюджвалі лістоўкі, арганізоўвалі мітынгі і дэманстрацыі. Рух за вызваленне Анры Мартэна ператварыўся ў магутную кампанію барацьбы супраць вайны ў В'етнаме, за мір і дэмакратычныя свабоды. Гэты рух ахапіў усю моладзь Францыі, незалежна ад палітычных поглядаў і рэлігійных перакананняў. На адным з мітынгаў у Гаўры ў студзені 1953 года маладыя пратэстанты і католікі, комуністы і соцыялісты выступілі супраць каланіяльнай вайны, за вызваленне мужнага барацьбіта за мір Анры Мартэна. На гэтым мітынгу было сабрана 1 600 новых подпісаў з патрабаваннем вызвалення Мартэна.

На мітынгах і сходах адначасова з патрабаваннем вызвалення Мартэна прымаліся рэзалюцыі супраць павелічэння тэрміну ваеннай службы, за палепшанне ўмоў жыцця французскай моладзі.

Саюз рэспубліканскай моладзі Францыі, які аб'ядноўвае ў сваіх радах перадавую дэмакратычную моладзь краіны, з'явіўся ініцыятарам актыўнага ўдзелу французскай моладзі ў французскіх нацыянальных кангрэсах у абарону міру. Напярэдадні III Сусветнага кангрэса народаў у абарону міру ў Парыжы адбыўся грандыёзны 50-тысячны нацыянальны з'езд у абарону міру. 10 тысяч маладых комуністаў, католікаў, спартсменаў, студэнтаў сабраліся на гэты з'езд, каб абмеркаваць пытанні барацьбы за правы моладзі на жыццё, на шчасце.

У кастрычніку 1952 года пачаліся новыя рэпрэсіі ўрада супраць свабодалюбівай французскай моладзі. Былі кінуты ў турмы кіраўнікі Саюза рэспубліканскай моладзі Гі Дзюкаланэ, Ларан Байо і іншыя патрыёты. Іх абвінавацілі ў «замаху на знешнюю бяспеку» дзяржавы і пагражалі ім смяротным пакараннем.

Аднак гэтыя рэпрэсіі не запалохалі моладзь. Юнакі і дзяўчаты Францыі з новай сілай разгарнулі кампанію за вызваленне сваіх арыштаваных таварышаў.

Да жніўня 1953 года гэтая кампанія дасягнула такога велізарнага размаху, што ўрад Францыі, напалоханы народным абурэннем, вымушаны быў 2 жніўня датэрмінова вызваліць з турмы Анры Мартэна. У канцы жніўня былі вызвалены таксама Гі Дзюкаланэ і іншыя арыштаваныя патрыёты.

Гэта — буйнейшая перамога дэмакратычных сіл Францыі.

Зараз усе камітэты барацьбы за вызваленне Анры Мартэна пераўтвораны ў камітэты барацьбы за свабоду імя Анры Мартэна.

Французская моладзь, якая жадае жыць у міры і дружбе з усімі народамі, адыгрывае актыўную ролю ва ўсенароднай барацьбе супраць бонскага і парыжскага ваенных дагавораў. На мітынгах і сходах чуецца магутны голас прадстаўнікоў французскага маладога пакалення, якое патрабуе скасаваць ваенныя дагаворы, пагражаючыя ўцягнуць Францыю ў вайну за інтарэсы амерыканскіх і заходнегерманскіх імперыялістаў. Па ініцыятыве французскіх дзяўчат шырокае распаўсюджанне ў краіне атрымалі «Сшыткі міру», у якіх збіраюцца подпісы, малюнкі і фатаграфіі, што заклікаюць адвергнуць ваенныя дагаворы. Супраць ваенных дагавораў ужо сабраны сотні тысяч подпісаў. У адным толькі дэпартаменце Буш дзю Рон менш чым за 15 дзён снежня 1953 года было сабрана 50 тысяч подпісаў.

У жніўні 1953 года ў Бухарэст на IV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў прыбыло 3 500 французскіх юнакоў і дзяўчат. Дэлегатам фестываля пагражалі рэпрэсіямі, пагражалі пазбавіць работы, выгнаць з навучальных устаноў. Але нішто не змагло зламаць волі французскай моладзі да міру, дружбы і адзінства з усёй моладдзю свету.

Французская моладзь прывезла на фестываль многа падарункаў. В'етнамскай дэлегацыі яна падаравала бюст Анры Мартэна — сімвал непахіснасці ў барацьбе за свабоду. Савецкай дэлегацыі французская моладзь падаравала экземпляр газеты, якая выдавалася Парыжскай Комунай.

Гэтыя хвалюючыя сімвалы братэрства і дружбы зрабілі велізарнае ўражанне на ўсіх удзельнікаў фестываля.

Маладое пакаленне французскай нацыі, лепшыя яе сыны, рашуча заяўляюць аб сваёй непахіснай волі да барацьбы за шчаслівую, свабодную Францыю, за мір ва ўсім свеце.

**Палітыка гонкі ўзбраенняў, навязаная Францыі Злучанымі Штатамі Амерыкі, абядняе французскіх сялян.** На здымку: **многалюдная дэманстрацыя сялян у Монтэлімары. На плакатах напісана: «Сялянства не хоча быць абрабаваным. Прэч налогі! Прэч антысялянскую палітыку!»**



Міхайла СТЭЛЬМАХ

Мал. А. Волкава.







Каля гаці, каля хаткі
Засадзіў барсук дзве градкі,
І дасвеццем, на зары,
Спаць залёг ён у нары.
Спаў барсук два дні й дзве ночы,
Аж запухлі ў яго вочы.
Ён прачнуўся, з'еў пірог,
Пазяхнуў — і зноў прылёг...
Каля хаткі, дзе дзве градкі,
Бачыць заяц — непарадкі:
Не паліў пасеў барсук,
Заяц будзіць — тук-тук-тук,
Уставай хутчэй, зямляча,
Без вады пасеў твой плача!
— Зараз, боцікі знайду,
За вядро — і па ваду.
Устаў барсук, расправіў плечы,
І не ў дзверы, а да печы...
З'еў ён бульбу, з'еў кісель,
Пазяхнуў — і у пасцель.

Гора градкам, на якіх
Гаспадараць барсукі.




Рак, што трапіў у ставок,
Забурчэў на ўсё здалёк:
— Ох парадкі ў свеце водным —
Тут кляшні няма ніводнай!..
Тут мяркуюць, што й судак
Мае права, быццам рак.
Тут адна заўжды падзяка —
І за рыбу, і за рака.
Ганьбіць, лае рыбу рак:
— Рыба ўся плыве не так,
Вочы ў рыбіны ўсялякай
Не глядзяць, як вочы ў рака.
Толькі я навёў-бы лад —
Рыба плавала-б назад...
Я даўно ўжо ўставіць хочу
Рыбе ракавыя вочы.
Калі-б быў я тут суддзёю,
Дык не цацкаўся-б я з ёю...

Ды не стаў суддзёю рак:
Трапіў ён заўчасна ў сак.



Пераклад з украінскай мовы.

# НОВЫЯ КНІГІ

## Аповесць Ул. Шахаўца на рускай мове

Выдавецтва ЦК ВЛКСМ «Маладая гвардыя» выпусціла асобным выданнем аповесць Уладзіміра Шахаўца «Насустрач» у перакладзе на рускую мову.

Аповесць прысвечана паказу партызанскага руху на Беларусі. Аўтар не ставіў перад сабой задачу шырока і ўсебакова паказаць барацьбу беларускіх партызан, а ўзяў толькі адзін бок гэтай барацьбы — змаганне за будучае мірнае жыццё, зараджэнне гэтага жыцця ўжо ва




ўмовах ваеннага часу. У партызанскай зоне ідзе аднаўленне калгаса, працуе школа, партызанскія кіраўнікі клапоцяцца аб захаванні народнага багацця. Такі падыход да тэмы, улічваючы тое, што ў беларускай літаратуры напісана ўжо нямала твораў аб партызанскім руху, зразумела, зусім новы, і ў гэтым заключаецца вялікая заслуга аўтара. Ён здолеў па-новаму зазірнуць у жыццё і заўважыць тыя рысы, якія дагэтуль не былі паказаны.

Пісьменнік здолеў падпарадкаваць сваёй задуме ўсе састаўныя часткі аповесці — і сюжэт, і дзеянні герояў, і нават абставіны, у якіх яны дзейнічаюць. Тут няма нічога лішняга, што выходзіла-б за рамкі пастаўленай мэты, што супярэчыла-б асноўнай задуме. І партызанскія камандзіры, і радавыя партызаны, і дыверсійная група, і сяляне навакольных вёсак — усе дзейнічаюць для адной мэты: хутчэй наблізіць час мірнага жыцця, дапамагчы Савецкай Арміі ў разгроме ворага, як мага больш захаваць народнага дабра.

Савецкія воіны, сотні тысяч партызан і падпольных работнікаў, увесь савецкі народ змагаліся ў імя міру, у імя стваральнай працы. Усё гэта ў поўнай меры ўлічана аўтарам. Аднак, вырашаючы такую цікавую і складаную тэму, Ул. Шахавец дапускае да некаторай ступені парушэнне жыццёвай праўды ў імя літаратурнай стройнасці твора, у імя таго, каб як мага ярчэй падкрэсліць сваю ідэю. Так, напрыклад, партызаны не сустракаюць амаль ніякіх сур'ёзных цяжкасцей у ажыццяўленні таго, што імі задумана. Праўда, аўтар падкрэслівае, што было шмат гітлераўцаў, што было шмат аховы і ўмацаванняў, але партызаны, як «невідзімкі», робяць усё, што ім захочацца. Так здарылася пры падрыве эшалона дыверсантамі. Эшалон узарваны, але падрыўнікі трапляюць у акружэнне, у безвыходнае становішча. Які-ж выхад знаходзіць аўтар? У самы напружаны момант ударае гром, бліскае маланка, лье страшэнны лівень, і гэта выратоўвае людзей. Далей падрыўнікі трапляюць у вёску, у якой выпадкова ў аднаго з іх знайшлася родная цётка, снедаюць у яе, і тут з'яўляюцца немцы і паліцыя.

Вось яны ідуць да хаты цёткі... Тут ужо, відаць, не выкруцішся. Але не. Паліцаі і немцы ні з таго, ні з сяго паварочваюць назад і абмінаюць хату, а праз некалькі хвілін гэтак-жа раптоўна знікаюць, як і з'явіліся. Падрыўнікі тут-жа адкрыта збіраюцца, мітынгуюць і г. д. Далейшыя тлумачэнні аўтара не выратоўваюць справы, не пераконваюць чытача ў праўдзівасці сітуацыі. Яшчэ больш неверагоднае адбываецца і ў трэцім выпадку. Трэба падарваць мястэчковую электрастанцыю, але так, каб яе лёгка было потым аднавіць. І тут усё адбываецца, як па заказу. Падрыўнік Салаўёў зрабіў гэта без ніякіх цяжкасцей разам з качагарам, ды пры тым яшчэ выхваляецца: «Я её до самой малости оглядел, переодевшись в форму офицера инженерных войск» і г. д.

Бясспрэчна, што прыведзеныя сітуацыі з'яўляюцца выпадковымі і нават штучнымі, непераканальнымі. Аўтар не зрабіў мастацкіх абагульненняў, задаволіўшыся тым, што прышлося чуць або бачыць раз у жыцці. Аднак мастацкі твор патрабуе іншага. Для другога выдання аповесці аўтару неабходна было-б паклапаціцца аб большай прадуманасці, аб большай праўдзівасці паказаных падзей.

Характарыстыка герояў і многія іншыя бакі твора сведчаць аб значных здольнасцях пісьменніка. Застаюцца ў памяці і пейзажныя замалёўкі, і асобныя сцэны, характэрныя праўдзівым псіхалагічным абгрунтаваннем, якія сведчаць аб тым, што аўтар умее раскрыць унутраны свет героя, яго псіхалогію.

Б. Бур'ян упершыню выступае як перакладчык мастацкай прозы з беларускай на рускую мову. І трэба сказаць, што гэтая спроба даволі ўдалая. Ён здолеў перадаць аўтарскую мову і яе каларыт. Гэта адчуваецца і ў аўтарскім тэксце і ў дыялагу. Трэба толькі параіць перакладчыку пазбягаць казённых зваротаў і больш смела, калі гэта патрэбна, адступаць ад арыгінала, імкнучыся перадаць галоўным чынам думку, а не даслоўна пераказаць кожны сказ.

Адзначаючы некаторыя недахопы як самога аўтара, так і перакладa, нельга закрэсліваць тую значную работу, якую прарабілі як аўтар, так і перакладчык для выдання аповесці на рускай мове. Многае тут апушчана, многае пашырана і дапоўнена, ад чаго атрымаўся больш стройны мастацкі твор.

Выданне аповесці Ул. Шахаўца пазнаёміць рускага чытача з новым беларускім аўтарам.

Р. НЯХАЙ.

---

ВЛ. ШАХОВЕЦ «НАВСТРЕЧУ». Из-во ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», 1953. Перевод с белорусского Б. Бурьяна.

АДКАЗВАЕМ НА ПЫТАННІ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

# Камбінаваныя здымкі ў кіно

Чытачы «Маладосці» В. Федарынчык, В. Адамовіч, С. Сямёнаў (Мінск) просяць расказаць аб камбінаваных здымках у кіно. Ніжэй мы друкуем артыкул на гэтую тэму.





**У кінагледача часта ўзнікае пытанне: «Як гэта зроблена?»**

**У мастацкіх фільмах мы бачым знаёмых акцёраў, якія дзейнічаюць у велізарных па маштабах баях, ва ўмовах пажараў, узрываў, бамбёжак, чыгуначных катастроф. У кіноказках, у фантастычных і прыгодніцкіх фільмах глядач бачыць на экране неіснуючыя ў сапраўднасці з'явы.**

**Такія кадры здымаюцца не зусім звычайным спосабам.**

**Сучасная кінематаграфія мае ў сваім распараджэнні так званую тэхніку камбінаваных здымкаў. Пры дапамозе камбінаваных здымкаў можна замяніць частку дарагакаштуючых дэкарацый макетам або малюнкам, не парушыўшы пры гэтым выяўленчай часткі кінокадра. Можна, не выязджаючы ў далёкія экспедыцыі, зняць акцёраў у здымачным павільёне і атрымаць кадры, дзе акцёры дзейнічаюць на фоне пейзажаў, якія ў сапраўднасці знаходзяцца ад іх за тысячы кіламетраў.**

**Што-ж уяўляюць сабой працейшыя камбінаваныя здымкі?**

**Сучасная кіназдымачная камера дазваляе праводзіць здымку з рознай хуткасцю руху плёнкі, гэта значыць з рознай колькасцю кадраў у секунду. Дэманстрацыя-ж фільма на экране заўсёды праводзіцца з хуткасцю 24 кадры ў секунду.**

**Калі неабходна паказаць гледачу імклівую пагоню за аўтамашынай ці палёт самалёта з надзвычайнай хуткасцю, то здымкі вядуцца замаруджана, 8—12 кадраў у секунду. Затым на экране паказваецца той-жа матэрыял з хуткасцю 24 кадры ў секунду. Мы бачым тую-ж падзею, якая адбываецца цяпер у два-тры разы хутчэй. І наадварот, можна замарудзіць тое ці іншае дзеянне.**

**Прымяненне паскоранай здымкі пры фатаграфіі такіх аб'ектаў, як марскі прыбой, вадаспады і інш., надае гэтым з'явам грандыёзнасць і веліч, павышаючы тым самым сілу ўздзеяння кадраў на гледача.**

**Шырока выкарыстоўваецца ў кінематаграфіі так званая адваротная здымка. Глядач, напрыклад, здзіўляецца, як гэта ў фільме «Музыкальная гісторыя» машына, якая хутка імчыцца, раптам супыняецца над безданню, што пярэднія колы нават павісаюць над ёй.**

**Робіцца такі здымак шляхам адваротнага руху плёнкі ў апараце або пры дапамозе аптычнай устаноўкі перад аб'ектывам кінокамеры, якая пераварочвае адлюстраванне.**

**Да пачатку здымкаў аўтамабіль быў устаноўлены над безданню. Затым па камандзе аператара аўтамабіль з дапамогай троса адцягвалі назад, а праз некалькі секунд уключаўся матор, і аўтамабіль ужо самастойна рухаўся заднім ходам.**

**Уся здымка вялася замаруджана. Калі-ж дэманстраваўся фільм, глядач убачыў машыну, якая хутка імчыцца наперад, і яе раптоўны супынак над безданню.**

**Да прасцейшых відаў камбінаваных здымкаў адносіцца і прыём шматразовага выкарыстання аднаго і таго-ж кадра. Гэты метад часта прымяняецца пры здымках усемагчымых сноў, успамінаў і г. д., калі на ўжо заснятым, але, зразумела, не праяўленым кадры з адлюстраваннем чалавека, які спіць, другі раз здымаецца яго сон ці ўспаміны.**

**Цікавы прыём, калі даводзіцца ствараць аб'екты, якія не існуюць. Напрыклад, у фільме «Выбаргская старана» патрабавалася паказаць дарэвалюцыйную петраградскую ўскраіну. Дэкарыраваць для гэтай мэты вуліцы Ленінграда або будаваць макет іх заняла-б многа часу і дорага каштавала-б. Здымаліся гэтыя кадры з карцін, намаляваных мастакамі.**

**У фільме-казцы «Садко» неабходна было паказаць гледачу знаходжанне Садко ў падводным царстве. Здымкі гэтых кадраў праводзіліся такім чынам: у здымачным павільёне перад кінокамерай быў устаноўлены вялікі, запоўнены падфарбаванай вадой акварыум, у якім былі размешчаны марскія водарасці, падводныя камяні, жывыя рыбы і другія жыхары воднага царства.**

**За акварыумам, на невялікай адлегласці ад яго, дзейнічалі акцёры. Такім чынам, ігра акцёраў здымалася праз акварыум, а ў гледача ствараецца поўнае ўражанне падводнага царства і знаходжання ў ім герояў.**

**Кіностудыя «Беларусьфільм» у час работы над мастацкім фільмам «Канстанцін Заслонаў» шырока карысталася камбінаванымі здымкамі. Замест чыгуначных саставаў, станцый, памяшканняў здымаліся макеты. У гэтым-жа фільме трэба было зняць падпаленае партызанамі бензасховішча. На фото № 1 паказаны рабочы момант падрыхтоўкі да здымкаў макетаў бензасховішча, якія зроблены з фанеры ў дзесяць разоў меншымі за натуральныя.**

**На фото № 2 мы бачым кадр з фільма — палаюць бензасховішчы. Уражанне сапраўднага пажару.**

**На фото № 3 паказаны рабочы момант падрыхтоўкі да здымкаў чыгуначнага састава. А на фото № 4 мы бачым макет поезда ўжо з фільма.**

**Цяпер студыя «Беларусьфільм» пачала работу над фільмам «Хто смяецца апошні», у якім таксама будуць шырока выкарыстаны камбінаваныя здымкі.**

**Вопыт айчыннай кінематаграфіі дае шырокія магчымасці прымянення камбінаваных здымкаў і вялікія перспектывы далейшага развіцця гэтага віду здымкаў.**

**А. ПАРЫЦКІ,**
**галоўны інжынер студыі «Беларусьфільм».**





# Коратка пра каучук

**Хрыстафор Калумб быў першым еўрапейцам, які ўбачыў каучук. Калі іспанскія каравелы кінулі якар каля вострава Гаіці, Калумб з цікавасцю наглядаў, як індзейцы перакідвалі адзін другому незвычайны вялікі чорны шар. Падаючы на зямлю, шар гэты нечакана высока ўзлятаў у паветра...**

**Праз сто гадоў іспанскія салдаты ў Мексіцы ўбачылі на індзейцах непрамакаемае адзенне. Індзейцы тлумачылі, што іх адзенне прапітана сокам з дрэў асобай пароды, які называлі гэты сок «као-учу», што азначае «слёзы дрэва».**

**У Еўропе каучук у штодзённы ўжытак увайшоў многа пазней. Індзейскія непрамакаемыя плашчы і галёшы падабаліся еўрапейцам. Але бяда заключалася ў тым, што дрэвавае малако хутка цвярдзела на паветры і давезці каучук у вадкім стане, каб наладзіць вытворчасць гумавых рэчаў на месцы, было нельга. Ніхто не ведаў, як зноў зрабіць цвёрды каучук вадкім.**

**У 1819 годзе англійскі хімік Макінтош, робячы доследы над кавалкамі гумы, выпадкова пераблытаў колбы. Ён абліў кавалак гумы не тым саставам, якім збіраўся, і яна на вачах пачала таяць, раставарацца. Тут-жа выявілася, што вучоны памылкова абліў гуму каменнавугальным маслам. Макінтош паўтарыў дослед і атрымаў бліскучыя вынікі. Растварыцель каучуку быў знойдзены.**

**Хутка стала вядома, што гуму можа растваряць і шкіпідар. У 1823 годзе Макінтош пабудаваў першую фабрыку гумавых вырабаў. Першая мадэль гумавага паліто ў яго чэсць была названа макінтошам.**

**У Расіі першая гумавая фабрыка была пабудавана праз 9 год пасля Макінтоша.**

**Але наступіла і расчараванне ў якасцях гумавага адзення і абутку. На марозе галёшы дубянелі на нагах, паліто рабіліся цвёрдымі, нібы яны былі сшыты з ліста бляхі. У гарачыя дні абутак і адзенне распаўзаліся.**

**Першым, хто зрабіў гуму нейтральнай да ўздзеяння тэмпературы, быў хімік Чарльз Гудзьір. Хітрыя капіталістычныя дзялкі нажылі на яго адкрыцці мільённыя багацці, а Гудзьір памёр, усімі пакінуты і забыты.**

**Рост тэхнікі патрабаваў усё больш каучуку. Капіталістычныя краіны пачалі ўзмоцнена разводзіць у тропіках каучукавыя дрэвы. Рабочых вербавалі сярод кітайскай беднаты і афрыканскіх неграў. Работа на плантацыях была сапраўдным рабствам.**

**Царская Расія не мела ўласнай вытворчасці каучуку. Ён, як і многія іншыя тавары і вырабы, прывозіўся з-за мяжы.**

**Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў нашай краіне адразу пачаліся работы па адшуканню айчыннай сыравіны для вытворчасці каучуку. Выявілася, што каучуканосы растуць не толькі ў тропіках, але яны ёсць і ў нашай краіне. Найлепшым з іх аказаўся коксагыз, упершыню знойдзены ў гарах Цянь-Шаня.**

**Савецкія хімікі зрабілі многа для таго, каб знайсці найлепшы спосаб атрымання штучнага (сінтэтычнага) каучуку. У 1926 годзе савецкі ўрад абвясціў конкурс на атрыманне штучнага каучуку. Была пастаўлена задача атрымаць сінтэтычны каучук, які-б па сваіх якасцях і цане не ўступаў натуральнаму. Першым, хто адгукнуўся на заклік савецкага ўрада, быў вядомы савецкі вучоны-хімік С. В. Лебедзеў.**

**Каб зрабіць каучук танным, яго патрэбна было атрымліваць з сыравіны, якая ў дастатковай колькасці ёсць у нашай краіне. Лебедзеў вырашыў атрымаць каучук з этылавага спірту, які здабываецца шляхам бражэння з бульбы і хлебных злакаў. За вельмі кароткі час Лебедзеў са сваімі памочнікамі атрымаў сінтэтычны каучук, які адпавядаў патрабаванням конкурса.**

**Савецкі хімік за два гады вырашыў задачу, над якой без поспеху шмат год біліся зарубежныя вучоныя і нават вядомы сваімі адкрыццямі Эдысон. Эдысон, напрыклад, не паверыў у адкрыццё Лебедзева, аб чым і напісаў у амерыканскай газеце. Але ў хуткім часе вялікаму вучонаму прышлося прызнаць сваю памылку. Пазней, пры ўзрастаўшай здабычы каучуку, этылавы спірт пачалі атрымліваць не з бульбы, а з драўніны, з адыходаў папяровай прамысловасці і г. д.**

**Акрамя гэтага, каучук зараз атрымліваецца з нафты. Вытворчасць сінтэтычнага каучуку з'яўляецца магутнейшай галіной савецкай прамысловасці.**

**Е. АНДРЭЕВА.**



**Вясновы ледаход.**
Фото І. Пікмана.